РЭСПУБЛІКА БЕЛАРУСЬ

# Культура

Кошт 50 рублёў

ШТОТЫДНЁВАЯ ГРАМАДСКА-АСВЕТНІЦКАЯ ГАЗЕТА №11 (120). 16 САКАВІКА 1994 ГОДА.

СЁННЯ:



ЖЫЦЦЁ ПАДКАЗВАЕ... НА ЗАХАД?

Стар. 4







*Не першы раз наша газета сумесна з Беларускім універсітэтам культуры праводзіць цікавыя імпрэзы. Чарговым мерапрыемствам была прэзентацыя кнігі вядомай даследчыцы і літаратаркі Лідзіі Савік «Вяртанне. Жыццяпіс Барыса Уладзіміравіча Кіта».*

*Інфармацыю пра вечарыну чытайце на стар.2.*

*На здымках:*

1. *Л.Савік.*
2. *В.Рагойша.*
3. *Часовы паверaны ў справах ЗША ў Рэспубліцы Беларусь Джордж Альберт Кроль.*
4. *У час прэзентацыі.*
5. *І гучалі беларускія мелодыі...*

*Фота Віктара КУДРАЎЦАВА.*



# ПРЭС-КАНФЕРЭНЦЫЯ ПАСЛА

9 сакавіка ў Міністэрстве замежных спраў была наладжана прэс-канферэнцыя Надзвычайнага і Паўнамоцнага Пасла Рэспублікі Беларусь у Літве Яўгена Вайтовіча, які яшчэ нядаўна займаў пасаду міністра культуры. Яўген Канстанцінавіч распавёў пра першыя крокі Пасольства Беларусі ў Вільні, пра тое, што ўдалося зрабіць за гэты месяц, у тым ліку ў галіне культурных сувязяў паміж дзвюма краінамі. У прыватнасці Вайтовіч сказаў: «Сустрэлі мяне вельмі добразычліва. У мяне склаліся роўныя добрыя адносіны з многімі афіцый-нымі дзеячамі, з кіраўнікамі палітычных партый, з пасламі іншых краін. Амаль праз тыдзень пасля прыезду я ўручыў Даверныя лісты Прэзідэнту Літоўскай Рэспублікі А.Бразаўскасу, з якім адбылася і гутарка сам-насам, у ёй Прэзідэнт падкрэсліў, што склаліся добрыя адносіны паміж нашымі краінамі, і адзначыў, што прызначэнне Надзвычайнага і Паўнамоцнага пасла з'яўляецца яшчэ адным крокам у развіцці сяброўскіх адносінаў суседніх дзяржаў. Прэса назаўтра ж апублікавала добрыя водгукі на гэтую падзею...» Далей пасол распавёў, што за гэты час ён меў многа афіцыйных сустрэч, падчас якіх ішла добразычлівая гаворка, хаця ўзнімаліся і складаныя пытанні. Некалькі разоў прадстаўнікі пасольства сустракаліся з кіраў-ніцтвам беларускіх суполак, выслухалі просьбы і пажаданні. Перад урадам і Віленскім гарвыканкамам пастаўлены пытанні аб стварэнні музея І.Луцкевіча ў Базыльянскіх мурах і аб стварэнні беларускай школы, а ў перспектыве — беларускай гімназіі. Ішла размова з кіраўніцтвам тэлебачання аб павелічэнні часу беларускамоўных праграм.

Яўген Канстанцінавіч звярнуў увагу прэсы яшчэ на адну з'яву, якая яго вельмі ўразіла і здзівіла: «25 лютага адразу ў чатырох беларускіх газетах і на радыё была дадзена інфармацыя, сэнс якой зводзіцца да таго, што Вайтовіча, маўляў, не прымаюць у Літве. Я хачу працытаваць фрагмент інтэрв'ю, якое я даў адной з літоўскіх газет: Пытанне: — У інтэрв'ю беларускай газеце «Звязда» Вы сказалі, што Вільнюс — былая сталіца Беларусі. Гэтая фраза была зразуметая некаторымі палітыкамі і прадстаўнікамі грамадскасці, як прэтэнзіі на літоўскую тэрыторыю.

Адказ: Вельмі добра, што Вы задалі гэтае пытанне. Гаворачы ў інтэрв'ю пра гістарычныя, культурныя і духоўныя сувязі паміж нашымі народамі, я ў якасці прыкладу прывёў той факт, што ў мінулым Вільнюс быў сталіцай і беларусаў, паколькі ў часы Вялікага княства Літоўскага нашы народы ўваходзілі ў адну дзяржаву. Я цвёрда ўпэўнены, што гістарычнае мінулае нас аб'ядноўвае, а не раз'ядноўвае. У гэтай фразе няма і намёку на прэтэнзіі да Вашай улюбёнай сталіцы. Любая іншая трактоўка майго выказу — няправільная».

Пасол звярнуўся да прэсы з просьбай вельмі абдумана і аб'ектыўна ставіцца да інфармацыі аб міжнародных адносінах паміж Беларуссю і Літвой.

У прэс-канферэнцыі таксама бралі ўдзел першы намеснік міністра замежных спраў Рэспублікі Беларусь Георгій Таразевіч і Паверанны ў справах Літоўскай Рэспублікі ў Беларусі Альфонсас Аўгуліс.

**Г.Б.**



На здымку: Прэзідэнт Літоўскай Рэспублікі Альгірдас Бразаўскас і Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол Беларусі Яўген Вайтовіч.

# ВЯРТАННЕ

Незвычайна цёплай і шчырай атрымалася прэзентацыя кнігі вядомай даследчыцы і літаратара Лідзіі Савік «Вяртанне. Жыццяпіс Барыса Уладзіміравіча Кіта», праведзеная Універсітэтам культуры і нашай газетай.

Прыйшлі на яе тыя, хто садзейнічаў выданню кнігі, — старшыня Згуртавання беларусаў свету «Бацькаўшчына» Ганна Сурмач, галоўны рэдактар газеты «Голас Радзімы» Вацлаў Мацкевіч і ягоны намеснік Дзіяна Чаркасава, калегі Лідзіі Савік — дырэктар Нацыянальнага навукова—асветнага цэнтра імя Ф.Скарыны Адам Мальдзіс і яго намеснік, доктар філалагічных навук Вячаслаў Рагойша, а таксама ўсе тыя, хто шануе імя нашага земляка, акадэміка Міжнароднай акадэміі астранаўтыкі Барыса Кіта.

«Я вельмі кранугы Вашым запрашэннем, — сказаў Часовы паверанны ў справах ЗША ў Рэспубліцы Беларусь Джордж Альберт Кроль. — Барыс Кіт — вядомы ў ЗША вучоны з бліскучай рэпутацыяй. І гісторыя яго жыцця — багатая і трагічная адначасна —вельмі важная не толькі для вас, але і для амерыканцаў».

Расказы пра Б.Кіта тых, хто яго ведае асабіста, атрымаліся вельмі жывымі яшчэ, мабыць, і таму, што на іх аказала ўплыў яркая і арыгінальная асоба вучонага. Паэтка Вольга Іпатава, прачытаўшы свой верш, прысвечаны Барысу Уладзіміравічу, адзначыла, што, ідучы ў Навагрудскую школу ў 1951г., безумоўна, не ведала, хто будаваў некалі, у 30-я гады, гэты будынак — былую Навагрудскую гімназію, але і будынак, і вучні, што скончылі яе, — гэта залаты ўклад у справу беларускага асветніцтва, які зрабіў былы дырэктар гімназіі Барыс Кіт, выдатны педагог і вучоны.

Нездарма А.Мальдзіс унёс прапанову, каб Беларускі універсітэт культуры надаў Б.Кіту званне ганаровага прафесара. А прысутныя падтрымалі гэтую прапанову гарачымі апладысментамі.

Шкадавалі толькі аб адным — што гэтая першая кніга пра аднаго з нашых землякоў была выдадзена надта малым тыражом —999 экземпляраў, дый тое з вялікімі цяжкасцямі. Што ж, мы яшчэ толькі вучымся шанаваць тых, хто складае славу іншых народаў, але вырас тут, на Беларусі.

**Р.КАЧАТКОЎ.**

# ЯК ВЫЖЫЦЬ МАСТАКУ?

Пад такой назвай 2 сакавіка 1994 года ў Рэспубліканскай мастацкай галерэі (Палац мастацтва) адбылася канферэнцыя Саюза мастакоў Беларусі, галоўным пытаннем якой стала праблема выжывання мастакоў у сучасных умовах.

Большасць мастакоў рызыкуе сёння апынуцца на вуліцы, бо арэндная плата за майстэрні стала непасільнай: на пачатку гэтага года стаўкі на нежылыя памяшканні былі павялічаны да 9000 руб. за квадратны метр. І толькі пасля значных намаганняў Саюза ўлады пайшлі на пэўныя ўступкі, знізіўшы плату за майстэрні да 1350 — 2000 руб. за кв.м.

Але і гэта не выратоўвае становішча мастакоў, якія не ў стане вытрымаць канкурэнцыю з камерцыйнымі структурамі, што прэтэндуюць на адведзеныя пад майстэрні памяшканні. Няпроста было, напрыклад, выратаваць майстэрні, што па вул.Казлова, ад перспектывы стварэння там амерыканскай крамы.

Рабаўніцкая падатковая палітыка дзяржавы ставіць пад сумненне магчымасць існавання ў нашай краіне прафесійнага мастацтва. За мінулы год звыш 400 млн.руб. з 1 млрд. 300 млн.руб. зробленых Саюзам грошай было аддадзена ў бюджэт. Пры гэтым толькі 3 млн.100 тыс.руб. было выдзелена Саюзу мастакоў Беларусі Міністэрствам фінансаў у выглядзе датацыі на падтрымку ветэранаў і яшчэ 1 млн.76 тыс. «ахвяравала» творчаму саюзу Міністэрства культуры.

У рэспубліцы адсутнічае цывілізаваны рынак збыту твораў мастацтва. Як трапна заўважыў у сваім дакладзе дырэктар Рэспубліканскай мастацкай галерэі Б.Крэпак, беларускі мастацкі рынак адрозніваецца ад еўрапейскага гэтак сама, як «беларускі газон ад англійскага газона». Галерэі, якія існуюць у нас сёння — гэта, па сутнасці, камісійныя лаўкі, якія жывуць са спекуляцыі творамі мастацтва. У прамове Б.Крэпака прагучала таксама заклапочанасць тым, што шматлікія творы беларускіх мастакоў прадаюцца за мяжу за бясцэнак, і «беларускае мастацтва пераўтвараецца ў аптовы тавар».

Найбольш прэзентабельная выставачная зала рэспублікі —Рэспубліканская мастацкая галерэя — вымушана сёння здаваць плошчы ў арэнду камерцыйным структурам і замест твораў мастацтва «экспанаваць» у выставачных памяшканнях заморскую мэблю, абутак і іншыя «здабыткі» сусветнай культуры.

Як было адзначана на канферэнцыі, усе гэтыя праблемы —вынік нераспрацаванай урадам праграмы развіцця прафесійнага мастацтва. Большасцю галасоў была прынята рэзалюцыя, у якой прагучала заклапочанасць сённяшнім станам беларускага выяўленчага мастацтва. Было прынята рашэнне звярнуцца ў Вярхоўны Савет, Савет Міністраў, мясцовыя органы ўлады з патрабаваннем увагі да вострых праблем Саюза мастакоў Беларусі, бо прафесійнае выяўленчае мастацтва рызыкуе зрабіць апошні крок на шляху да бездані, імя якой — Крах нацыянальнай культуры.

**Н.К.**

# У НЕКАЛЬКІ РАДКОЎ

- 15 сакавіка ў мінскім Доме літаратара адбылася прэзентацыя новага музычнага альбома знакамітага фальклорнага гурта «Ліцвіны».
- 16 сакавіка ў мінскім Доме літаратара — творчы вечар заслужанага дзеяча культуры, пісьменніка Аляксея Слесарэнкі.
- 18 сакавіка ў Вялікай зале Белдзяржфілармоніі — канцэрт зорак беларускай试 опернай сцэны. Перад аматарамі класічнай музыкі выступяць: Н.Кастэнка (сапрана), Н.Руднева (мецца-сапрана), М.Грыгорчык (тэнар), М.Жылюк (барытон). У праграме: Вэрдзі, Сэн-Санс, Бізэ, Пучыні, Расіні, Моцарт, Даніцэці, Рубінштэйн, Глінка.
- 18 сакавіка ў мінскай Зале камернай музыкі (пр.Ф.Скарыны, 44-а) — канцэрт класічнай музыкі. Партыю на цымбалах выконвае Т.Шумакова, фартэпіяна — Р.Бялецкая.
- 18 сакавіка ў Нацыянальным мастацкім музеі Беларусі —адкрыццё выставы «Стары Мінск у творах мастакоў-графікаў».
- З 18 па 20 сакавіка ў Маладзечне будзе праходзіць Рэспубліканскі фестываль майстроў тэатральнага мастацтва «Маладзечанская сакавіца-94». Арганізавалі свята Маладзечанскі гарвыканкам, Міністэрства культуры Беларусі, Саюз тэатральных дзеячаў, упраўленне культуры Мінаблвыканкама, Беларускі нацыянальны цэнтр Міжнароднага інстытута тэатра. Сваё майстэрства пакажуць вядучыя творчыя калектывы нашай краіны: купалаўцы, коласаўцы, артысты Рускага драмтэатра, а таксама гаспадары фэсту — акцёры Мінскага абласнога драматычнага тэатра ў Маладзечне.
- 19 сакавіка на Вольнай сцэне Дзяржаўнага тэатра-лабараторыі нацыянальнай драматургіі — прэм'ерны паказ жахлівай камедыі М.Казачонка «Прыватны» сектар».
- 19 сакавіка прадстаўнікі Згуртавання беларусаў свету «Бацькаўшчына» наведаюць суайчыннікаў, якія жывуць у эстонскім горадзе Кохтла-Ярвэ, каб адзначыць угодкі ўтварэння БНР.
- 20 сакавіка ў Мінскім раёне распачнецца Тыдзень тэатра і музыкі, прымеркаваны да вясновых школьных вакацый.
- 20 сакавіка пасланцы Згуртавання беларусаў свету «Бацькаўшчына» возьмуць удзел у кангрэсе Беларускага дэмакратычнага аб'яднання, які пройдзе ў Беластоку.

# ПАЭЗІЯ РЭАЛЬНАСЦІ ВІТОРЫА ДЭ СІКА

16 сакавіка г.г. у залах Палаца культуры прафсаюзаў пачынаецца рэтраспектыўны паказ фільмаў знакамітага італьянскага акцёра і рэжысёра Віторыа Дэ Сіка. Фестываль арганізаваны аддзелам культуры пасольства Італіі ў Рэспубліцы Беларусь, Беларускай федэрацыяй «Кінаклуб» і ДК прафсаюзаў.

У праграме фестывалю кінастужкі: «Цуд у Мілане» (Гран-пры кінафестывалю ў Кане ў 1951 г.), «Выкрадальнік веласіпедаў» ("Оскар" за лепшы замежны фільм 1949 года, шэсць прэмій «Срэбраная стужка»), «Страшны суд» (з цудоўным акцёрскім ансамблем: Альберта Сордзі, Фернандэль, Анук Эме, Сільвана Мангана), «Хлеб, каханне і фантазія» (рэжысёр Луіджы Каменчыні, у ролях Джына Лалабрыджыда, Віторыа Дэ Сіка) і г.д.

Як паведаміў нам аташэ па культуры пасольства Італіі ў Рэспубліцы Беларусь спадар Асвальда Леуці, гэты фестываль з'яўляецца пачаткам шырокай праграмы культурнага супрацоўніцтва з Беларуссю. Аснову гэтай праграмы ён выказаў на сустрэчы з журналістамі ў пасольстве Італіі.

Больш падрабязна аб ёй мы распавядзём у бліжэйшых нумарах нашай газеты.

*ДАРАГІЯ СЯБРЫ!*

*З радасцю паведамляем вам, што наша рэдакцыя ў гэтыя веснавыя дні стала навасёлам!*

*Мы пераехалі ў будынак, які месціцца недалёка ад Опернага тэатра, і цяпер наш адрас такі: 220029 г.Мінск, вул.Чычэрына,1. Тэлефон: 76-94-66.*

*Пішыце. Тэлефануйце. Заходзьце!*

**«КУЛЬТУРА».**



# ПАЛЯКІ НА БЕЛАРУСІ

З ДАЎНІХ часоў на тэрыторыях, якія цяпер маюць назву Беларусь, жывуць палякі. Раней гэтыя землі называлі інакш. Назва Белая Русь з'явілася толькі ў XVIII ст. У склад Белай Русі ўваходзілі Смаленская, Мсціслаўская і Полацкая землі. Міншчыну і частку Навагрудчыны называлі Чорнай Руссю. Гродзеншчыну і Навагрудчыну раней Беларуссю не называлі. Гэта была Літва. Пасля падзелу Рэчы Паспалітай у XVIII ст. паняцце «Беларусь» пашырылася і на гэтыя землі. На гэтых землях жывуць беларусы, палякі, літоўцы. Тут нарадзіліся такія вядомыя людзі, як А.Міцкевіч, Т.Касцюшка, Ю.Урсын-Нямцэвіч, Р.Траўгут, Т.Рэйтан і іншыя знакамітыя асобы, якія сталіся пазней сімваламі трох народаў.

ПА-РОЗНАМУ склаліся лёсы гэтых народаў. Гісторыя, культура палякаў моцна перапляталася з культурай і гісторыяй беларусаў. Нашы народы блізкія не толькі з-за адзінага славянскага паходжання, але яны блізкія яшчэ і таму, што маюць агульным шмат што іншае. Мы прайшлі агульны цярністы шлях, маем агульных нацыянальных герояў, пісьменнікаў, кампазітараў і г.д. Цяпер на Беларусі ідзе адраджэнне беларускай мовы і культуры, і гэты працэс, на нашу думку, павінен быць поўным. Не можа адрадзіцца беларуская культура без адраджэння польскай, габрэйскай, татарскай ды іншых культур і моў народаў, якія стагоддзі жывуць на гэтай зямлі.

Калі гаварыць аб адраджэнні польскага жыцця на Беларусі, то трэба зазначыць, што вельмі шмат страчана. Страчана раз і назаўсёды. А гэта азначае, што бяднейшая стала не толькі польская культура, але і беларуская.

У свой час на савецкай частцы Беларусі былі чатыры дзяржаўныя мовы, сярод якіх была і польская. У той час у польскіх школах на Меншчыне вучылася 7400 дзяцей, навучанне праводзілі 273 настаўнікі. Настаўніцкія кадры рыхтаваў Польскі педагагічны тэхнікум у Менску. Існавалі польскія выдавецтвы, клубы, бібліятэкі. На Меншчыне існаваў польскі аўтаномны раён — Дзяржыншчына.

Адкуль з'явіліся палякі на Беларусі? Гэтае пытанне час ад часу ўздымаецца на старонках газет і часопісаў як на Беларусі, так і ў сродках масавай інфармацыі іншых краін былога Савецкага Саюза. Польская мова і культура ў значнай меры пачалі аказваць свае ўплывы на Усходзе пасля Люблінскай уніі 1569 г. У гэты час былі скасаваныя ўсе адміністрацыйныя абмежаванні, якія існавалі на землях Вялікага княства Літоўскага. На тэрыторыю княства прыбывалі прадстаўнікі розных манаскіх ордэнаў (галоўным чынам езуіты), місіянеры, людзі мастацтва, навукі ды іншыя. Сярод перасяленцаў былі прадстаўнікі каралеўскай адміністрацыі і вайскоўцы.

На думку гісторыка Мікалая Іванова, моўнае насельніцтва перад другой сусветнай вайной дзялілася на тры групы.

Найбуйнейшая з іх была тая група, продкі якой жылі тут ад часоў Рэчы Паспалітай яшчэ перад 1772 г. Сярод іх была і шляхта, і тыя сяляне, якіх было прынята называць «мазурамі».

Другой групай былі сяляне-рабочыя, якія трапілі на ўсходнія абшары Рэчы Паспалітай 150 — 200 год назад, дзякуючы ўладальнікам розных майстэрняў. Напрыклад, уладальнікі шкляных гут выпісвалі з «Кароны» майстроў, якія за сваю працу на вытворчасці атрымоўвалі невялічкія надзелы зямлі.

Трэцяй, найменшай групай былі сяляне-перасяленцы, якія ў пошуках таннай зямлі атабарыліся на землях Беларусі, Украіны, Расеі. Гэтыя перасяленцы для латвейшай куплі зямлі масава пераходзілі ў праваслаўе.

У Вялікім княстве Літоўскім «руская» шляхта сама ахвотна паланізавалася і пераходзіла ў каталіцызм, хаця мясцовае сялянства заставалася верным сваёй мове і праваслаўнай веры. Вялікія магнацкія роды на Беларусі напачатку былі праваслаўнымі і «рускімі». Гэта тычыцца Сапегаў, Хадкевічаў, Тышкевічаў і г.д.

У канцы XVIII і першай палове XIX ст. расейскі царызм праводзіў жорсткую рэпрэсіўную палітыку ў адносінах да насельніцтва былой Літвы і «царства польскага». Статыстыка гэтага часу гаворыць аб тым, што 8 тысяч паўстанцаў Т.Касцюшкі былі высланы на Усход, 50 тыс. з паўстання лістападаўскага і не менш чым 100 тысяч удзельнікаў студзеньскага паўстання 1863 г.

Яшчэ адной адметнасцю эміграцыі было тое, што ў другой палове XIX ст. і на пачатку XX ст. у ЗША, Бразілію, Францыю накіроўваліся ў асноўным сяляне і гарадская бедната. У Расейскую імперыю выязджала інтэлігенцыя, якая мела добрую тэхнічную адукацыю і высокі культурны ўзровень.

НЕАДНАЗНАЧНЫМ і цяжкім пытаннем з'яўляецца колькасць палякаў на Беларусі. Падчас усеагульнага спісу, які быў праведзены яшчэ ў БССР, улады налічылі аж 417720. Улады касцельныя падаюць лічбу каталікоў значна большую. Думаю, што ніхто не будзе ставіць пад сумненне, што значная частка каталікоў Беларусі — палякі.

Пачынаючы з сярэдзіны 20-х гадоў у СССР утвараюцца нацыянальныя аўтаномныя польскія раёны. Такія раёны былі ўтвораныя на Украіне і на Беларусі. Польскі аўтаномны раён на Беларусі быў утвораны ў Койданаве, цяперашнім Дзяржынску, і называўся Дзяржыншчынай. Аўтарамі гэтага эксперымента былі польскія камуністы, якія ў той час жылі ў СССР — Ф.Дзяржынскі, Ю.Мархлеўскі, С.Бабінскі, Ю.Ляшчынскі-Ленскі, Ф.Кон, А.Прохняк, С.Будзынскі, А.Качароўскі-Славінскі і іншыя.

Утварэнне польскага нацыянальнага раёна мела свае цяжкасці. Выдзяленне адпаведнай тэрыторыі не было лёгкім, бо не спрыяла таму палітычная сітуацыя на Беларусі. Спробы польскага бюро КП(б)Б утварэння польскай адміністрацыйнай адзінкі блакіраваліся вышэйшым кіраўніцтвам БССР. Толькі ціск з боку кіраўніцтва СССР паспрыяў утварэнню аўтаномнага раёна.

З 17 сельскіх саветаў у раёне было 10 польскіх, 6 беларускіх, 1 габрэйска-польскі. Дзеляператварэння Дзяржынска ў цэнтр польскага жыцця на Беларусі планавалася перанесці сюды ўсе польскія арганізацыі і інстытуты. 31 сакавіка 1932 г. тут быў адкрыты будаўнічы тэхнікум, які павінен быў рыхтаваць кадры для польскіх калгасаў Беларусі. У Станькаве, былым маёнтку графа Чапскага, пачаў дзейнічаць Польскі навуковы камбінат. У рэальнасці гэта было педвучылішча, якое рыхтавала настаўнікаў для пачатковых класаў польскіх школ. Гэта педвучылішча налічвала ў 1933 г. 110 навучэнцаў. У 1934 г. у Дзяржынску пачаў дзейнічаць Польскі перасоўны калгасна-саўгасны тэатр.

Статыстыка сведчыць, што ў 1929 — 1933 гг. на Беларусі сфармавалася вялікая колькасць польскіх школ. Планавалася навучанне ўсіх польскіх дзяцей на роднай мове. На працягу першых двух гадоў пяцігодкі ўзніклі 260 школ. Нягледзячы на тое, што ўся вышэйшая адукацыя на Беларусі мела свае цяжкасці, у 1934 г. быў адкрыты Польскі педагагічны інстытут. Навучанне на польскай мове адбывалася не толькі ў менскіх інстытутах, але і ў Гомельскім аграпедагагічным інстытуце было некалькі польскіх груп.

У 1926 г. пры Беларускай Акадэміі навук быў адкрыты польскі сектар, які ў 1933 г. быў пераўтвораны ў Інстытут польскай пралетарскай культуры. Гэты інстытут займаў значнае месца ў працэсе развіцця «польскай пралетарскай культуры» ў СССР. Ужо ў 1927 г. тут працавала больш за 30 навукоўцаў. Аб значэнні гэтай навуковай установы можна меркаваць па тым, што тут праводзілася ў красавіку 1933 г. усесаюзная нарада па пытаннях даследаванняў гісторыі Польшчы. На гэтай нарадзе былі навукоўцы з Менска, Кіева, Масквы, Ленінграда. Атмасфера падчас нарады была няпэўная і поўная страху. Над удзельнікамі нарады вісеў лёс іншых даследчыкаў гісторыі Польшчы ў СССР —Ч.Ясінскага і Б.Скарбка. Фінал Інстытута польскай пралетарскай культуры быў жахлівы. Рэпрэсіі пачаліся ўжо ў 1935 г. і працягваліся два гады. Перад зліквідаваннем інстытута ў 1936 г. засталіся 3 навукоўцы.

Некалькі слоў пра менскую літаратурную секцыю, якая ўтварылася ў 1925 г. пры Польскім педагагічным тэхнікуме. Напачатку секцыя аб'ядноўвала толькі студэнтаў і настаўнікаў і значнай ролі ў польскім жыцці не адыгрывала. Але значэнне польскага літаратурнага аб'яднання ўзрасло ў 30-х гадах, калі задэбютавалі такія імёны, як В.Кавальскі, Х.Раманоўска, М.Жарскі, А.Гараўска, Я.Машынска-Хэльтман. У 1929 г. секцыя польскіх пісьменнікаў налічвала 11 асоб.

Трэба зазначыць, што творчасць польскіх літаратараў міжваеннай Беларусі нам невядомая: не захавалася аніводнага твору, аніводнай кнігі. У сталінска-камуністычнай сістэме нацыянальныя таленты мелі абмежаванні і не мелі магчымасцяў развіцця. Пацверджаннем гэтай аргументацыі можа быць прыклад альтэрнатыўнага развіцця літаратурнага таленту — Тадэвуш Бароўскі. Гэты чалавек паходзіў з Украіны, дзе вучыўся і працаваў. І толькі шчаслівы збег акалічнасцяў дазволіў яму ў 30-х гадах трапіць у Польшчу, дзе ён адпаведна развіў свой талент.

Гісторыя прафесійнага польскага тэатра на Беларусі пачынаецца з 1929 г. У гэты час была падпісана пастанова народнага камісара асветы БССР, на падставе якой была арганізавана Дзяржаўная польская тэатральная студыя. Напачатку гэтая студыя не мела памяшкання. Толькі ў 1932 г. калектыў атрымаў сваю сядзібу ў перабудаваным касцёле св.Алены і Сымона ў Менску (Чырвоны касцёл) і быў пераўтвораны ў Дзяржаўны вандроўны польскі тэатр БССР.

У 30-х гадах апроч польскага тэатра ў Менску дзейнічалі Дзяржаўны польскі вакальны ансамбль, «польскія брыгады» на радыё, якія перадавалі праз дзень «савецкую польскую радыёгазету».

УСЁ тое, што адбывалася ў культурным жыцці палякаў на Беларусі ў 20 — 30-х гадах было пазітыўным крокам, але гэта быў толькі бальшавіцкі эксперымент, задачай якога было паказаць суседняй Польшчы, што ў Савецкай Беларусі шануюцца правы нацыянальных меншасцяў і ўсё робіцца, каб гэтыя меншасці развіваліся.

Калі ў культурным жыцці можна было ствараць «пацёмкінскія раёны» і тым самым пускаць туман у вочы іншаземцаў, то існавала яшчэ адна сфера жыцця, дзе ніякія фокусы не праходзілі і кампраміс паміж чорным і белым не мог адбыцца. Гэтай сферай жыцця быў каталіцкі касцёл. Касцёл на Беларусі заўсёды адыгрываў значную ролю ў духоўным развіцці народа. Ён быў не толькі абаронцам польскіх альбо беларускіх нацыянальных традыцый, але і сродкам пашырэння культуры і асветы, сімвалам стасункаў з нябеснай радзімай. Чаму ў народзе каталіцкую веру называлі «верай польскай», а каталіцкі касцёл — «касцёлам польскім»? Усё гэта, можна сказаць, пайшло з лёгкай рукі імперскіх, а потым партыйных ідэолагаў. Апошнія ў той час сцвярджалі, што на Беларусі няма беларусаў-каталікоў, а ёсць палякі і каталіцкі касцёл — «польскі касцёл». Вядома яшчэ і тое, што ў 20 — 30-х гг. у Савецкім Саюзе з небывалым размахам праводзілася атэістычная прапаганда. І ўжо пачынаючы з 1929 г. атэізацыяй польскай меншасці на Беларусі займаецца антырэлігійная камісія польскага бюро ЦК КП(б)Б. Па яе ўказанні ва ўсіх польскіх газетах утвараюцца «куточкі атэістаў». Нават у беларускамоўным «Бязбожніку Беларусі» рэгулярна з'яўлялася польская старонка. Па ўказанні ўлад ствараюцца бязбожныя брыгады і аддзелы на прамысловых прадпрыемствах, бязбожныя калгасы і нават бязбожныя групы сярод вязняў у турмах. Тактыка ўлад палягала на тым, каб знішчыць хрысціянскія асновы жыцця. У польскім асяроддзі гэта тактыка ніколі не прыносіла пажаданых вынікаў. Не ўдалося стварыць масавай сеткі карэспандэнтаў «атэістычных куткоў» у друку, невялічкія былі групы бязбожнікаў на вёсцы, нездавальняючы быў узровень удзельніцтва рабочых у атэістычным руху.

20 — 30 гады — гэта таксама і гады вострых пераследаванняў праваслаўнай царквы. Так, у 1922 г. было расстраляна 8100 праваслаўных святароў, манахаў, манашак. Сярод ахвяр было 4 мітрапаліты. У гэты час павялічылася колькасць арыштаваных ксяндзоў. Рабілі паказныя працэсы, якія выкарыстоўваліся ў мэтах атэістычнай прапаганды. Найбольшы розгалас атрымаў працэс кс.Мустэйкіса з Бабруйска. З Лепеля бясследна загінуў кс.М.Карповіч. Без суда быў арыштаваны і вывезены ў невядомым кірунку кс.О.Спісацкі. Каталіцкі касцёл на Беларусі быў безабаронны ад тэрору. Камуністычная партыя не лічылася ані з прынцыпамі дэмакратыі, ані з прынцыпамі элементарнай маралі. Можна сказаць, што ў СССР рэлігійнае жыццё ў другой палове 30-х гг. было знішчана. На гэтым фоне распачаліся масавыя рэпрэсіі супраць польскай меншасці ў тагачасным СССР.

ЛІКВІДАЦЫЯ «польскага эксперымента» на Беларусі наступіла прыкладна ў 1936 — 1937 гг. Польскі нацыянальны раён фармальна існаваў да 1938 г. Ад пачатку 1937 г. раённая газета «Штурмовец Дзяржыншчыны» выдавалася выключна на беларускай мове. На аснове ўрадавай пастановы ў 1938 г. тэрыторыю польскага нацыянальнага раёна падзялілі паміж суседнімі раёнамі. Савецкі польскі эксперымент на Беларусі закончыўся і павінен быў знікнуць без следу. Сёння аб ім не згадваецца ні ў 12-томнай Беларускай Савецкай Энцыклапедыі, ні ў 5-томнай «Гісторыі БССР». Заканчэнне польскага эксперымента адбылося дырэктыўным спосабам з Масквы.

Перадваенныя 1937 — 1939 гг. застануцца ў памяці палякаў Беларусі як найбольш трагічныя. Пачаліся масавыя высяленні з вёсак, звальненні рабочых польскага паходжання ў прамысловасці абароннага характару. У краіне пачалася будова новых ліній абароны, аэрадромаў і г.д. Палякі, на думку тагачасных уладаў, былі сведкамі мілітарызацыі краіны ў памежнай зоне, таму маглі быць пятай калонай Польшчы. У польскія вёскі ўводзіліся аддзелы ГПУ, і людзям давалі некалькі гадзін на зборы. Прыгаворы выдаваліся ад 10 да 15 год прымусовай працы для жанчын і старых мужчын. Дзяцей, якім было больш 10 гадоў, забіралі ў дамы сірот у мэтах выхавання адданых патрыётаў савецкай улады. Дэпартацыя польскага насельніцтва пераважна адбывалася ў Казахстан, Комі АССР, частка трапіла ў Сібір. Антыпольскія рэпрэсіі ахапілі частку беларускага каталіцкага насельніцтва, таму што ўлады лічылі, што каталікоў-беларусаў няма. На Міншчыне высяленню падлягалі ўсе палякі, уключаючы актывістаў савецкай улады і партыйных функцыянераў.

Калі падсумаваць усё прыведзенае вышэй, дык трэба сказаць, што знішчэнне польскасці ў канцы 30 гадоў у СССР з'яўлялася працягам царскай палітыкі сталінскімі ўладамі. Гэта было таксама звязана з напружанымі стасункамі паміж СССР і Польшчай.

Калі гаварыць аб стане польскасці на Беларусі сёння, то толькі 13,3 працэнта з агульнай лічбы палякаў ведаюць сваю родную мову. Значная частка польскага насельніцтва страціла сваю мову, але захавала пачуццё польскасці.

10 жніўня 1988 г. у Гродне было арганізавана Польскае культурна-асветнае таварыства імя А.Міцкевіча. Арганізацыйны сход адбыўся ў Гродзенскім універсітэце імя Я.Купалы. У арганізацыйных спатканнях браў удзел беларускі пісьменнік Аляксей Карпюк. Некалькі месяцаў пасля арганізацыі Польскага таварыства ў Гродне яго аддзелы з'явіліся ў Лідзе, В.Эйсмантах, Васілішках, Навагрудку і іншых гарадах і вёсках Гродзеншчыны. У 1990 г. былі арганізаваныя таварыствы імя Р.Траўгута ў Брэсце і «Палонія» ў Мінску. У Баранавічах пачаў дзейнічаць Клуб аматараў польскай мовы і культуры «Рота».

16 чэрвеня 1990 г. польскія таварыствы, якія дзейнічалі на тэрыторыі рэспублікі, аб'ядноўваюцца ў Саюз палякаў Беларусі. На сённяшні дзень Саюз палякаў мае свае аддзелы ва ўсіх абласных гарадах. Гэта масавая польская арганізацыя налічвае 22 тыс. сяброў. Пры Саюзе палякаў дзейнічаюць Таварыства польскіх медыкаў і Таварыства польскіх мастакоў. 2 лютага 1992 г. пры Бернардынскім касцёле ўзнік Каталіцкі Клуб, які аб'ядноўвае гродзенскую моладзь польскага паходжання.

Асноўнай мэтай Саюза палякаў Беларусі з'яўляецца адраджэнне польскай мовы сярод польскага насельніцтва Беларусі. Гэта адраджэнне пачалося пасля 52 гадоў перапынку ў дзейнасці польскай школы.

Паводле даследаванняў дацэнта М.Дабрыніна з Брэста, для 93 працэнтаў палякаў Беларусі малітоўнік з'яўляецца адзінай кнігай на польскай мове. Адзіным узорам праўдзівай пальшчызны для старэйшага пакалення была мова ксяндза. Маладое пакаленне палякаў на Беларусі пасля заканчэння сярэдняй школы не валодае польскай тэрміналогіяй.

Але, як бы цяжка ні было з адраджэннем роднай мовы, ёсць надзея на тое, што ў незалежнай Беларусі гэты працэс пойдзе далей. Думаю, што мы, палякі, знойдзем паразуменне як з боку беларускіх улад, так і з боку беларускага народа. Нашы народы апынуліся ў аднолькавым стане. Палякі падтрымліваюць адраджэнне беларускай мовы і культуры. Падтрымліваюць увядзенне адзінай дзяржаўнай мовы на Беларусі — беларускай, пры стварэнні належных умоў для развіцця моў нацыянальных меншасцяў. Думаю, што беларуская мова і культура хутчэй адродзяцца, калі адродзяцца мовы і культуры нацыянальных меншасцяў. На думку даследчыка моўных гаворак на тэрыторыі Беларусі праф.В.Вярэніча, пасля ўпадку моў і культур іншых народаў Беларусі прыйшла ў заняпад і культура беларуская. Магу з прыемнасцю канстатаваць, што прадстаўнікі польскіх суполак на Беларусі знаходзяць разуменне з боку беларускай інтэлігенцыі. І гэта вельмі добра.

КУЛЬТУРА — паняцце універсальнае. Праўдзівая культура павінна служыць усім, незалежна ад таго, на якой мове размаўляе тая альбо іншая супольнасць. І тут трэба дзякаваць Богу і лёсу, што мы ўсе дажылі да таго часу, што можам адраджаць свае мовы, рабіць выставы нацыянальных мастакоў, адкрываць нацыянальныя бібліятэкі. Думаю, што ад гэтага выйграе наша агульная бацькаўшчына — Беларусь.

**Тадэвуш ТАРАСЕВІЧ,**
**Старшыня Польскага культурна-асветнага таварыства «Палонія» ў Мінску.**

СПРОБА ФІЛАСОФСКАГА АНАЛІЗУ

# ЖЫЦЦЁ ПАДКАЗВАЕ... НА ЗАХАД?

*ВЯДОМЫ брытанскі гісторык А.Тойнбі, даследуючы сусветную гісторыю, прыйшоў да высновы, што да XX стагоддзя ў чалавецтва не было агульнага лёсу. Тыбецкая, кітайская, егіпецкая цывілізацыя, цывілізацыі дакалумбавай Амерыкі жылі, часам нічога не ведаючы аб іншых, і ўжо напэўна не маючы агульнага гістарычнага вопыту. Сёння сітуацыя карэнным чынам змянілася. Упершыню ў гісторыі чалавецтва розныя кантыненты злучаны сродкамі масавай камунікацыі, і падзеі на кожным з іх неадкладна маюць водгулле ва ўсім свеце.*

У спрэчках аб тым, якая павінна быць Еўропа — ад «Брэста да Брэста» альбо ад «Атлантыкі да Урала», злучаюцца два падыходы: палітычны і гісторыка-культурны. Апошні ў больш шырокім кантэксце непарыўна звязвае культуру Беларусі як з культурамі народаў, што насяляюць былы Савецкі Саюз, так і з гісторыяй і культурай Еўропы.

Погляд на Еўропу як на цывілізацыю з мноствам культур з'яўляецца для федэралістаў, прыхільнікаў Злучаных Штатаў Еўропы, асновай і апраўданнем саюзу. Культура ўсіх еўрапейскіх народаў складалася на агульнай для іх індаеўрапейскай аснове і ўключае ў тых ці іншых прапорцыях грэкалацінскія, кельцкія, германскія, славянскія ўплывы. Усе значныя школы мастацтва, архітэктуры, музыкі, філасофіі, палітычнае думкі не з'яўляюцца чыста нацыянальнымі.

У кантэксце еўрапейскае ідэі асаблівую актуальнасць мае лёс рускай і беларускай ідэй.

Сістэматызаванае філасофскае абгрунтаванне рускай ідэі ўзыходзіць да У.Салаўёва, які надаў ёй канцэптуальную форму. У 1888 годзе ў Парыжы ён прачытаў даклад «Руская ідэя». Ніякага нацыянальнага самазадавальнення, этнацэнтрызму альбо «афіцыйнай народнасці» ў «рускай ідэі» Салаўёва не было. Наадварот, ён крытыкаваў усё тое, што Бярдзяеў пазней называў «царкоўным нацыяналізмам»: існуючы дзяржаўны лад, царкву, казённы патрыятызм. Салаўёў досыць пэўна выказваўся супраць нацыяналістычнай абмежаванасці. Ён падкрэсліваў, што твар нацыі вызначаецца вышэйшымі дасягненнямі яе духоўнасці, яе ўнёскам у сусветную цывілізацыю, у «рэальнае адзінства чалавечага роду», а не тым, «што яна думае пра сябе». Не раз'яднанне, а сінтэз, культурна-гістарычная еднасць чалавецтва павінны супрацьстаяць «мноству цэнтрабежных сілаў».

І. Канчэўскі ў «Адвечным шляху» (1921 г.) пісаў: «На беларускую ідэю прывыклі глядзець як на нешта ўжо зусім няяснае, няпэўнае, што не мае ў сабе жывога духу, каторы мог бы даць беларусам права на законнае існаванне спаміж іншых народаў(...). Беларусь ад X стагоддзя і да сёння фактычна з'яўляецца полем барацьбы двух накірункаў еўрапейскай, больш дакладна — арыйскай культуры — заходняга і ўсходняга. Мяжа гэтых уплываў, разлучаючы славянства на два лагеры, праходзіць праз Беларусь, Украіну і хаваецца ў балканскіх краях (...). Ваганні паміж Усходам і Захадам і шчырая непрыязнасць да таго і другога з'яўляюцца галоўнай рысай гісторыі беларускага народа».

Сутнасць беларускай ідэі — творчыя адносіны да быцця, непрыманне аднойчы і назаўсёды вызначаных аб'ектывізаваных дэгуманізаваных догмаў і прынцыпаў грамадска-палітычнага і эканамічнага ладу, хай гэта капіталізм альбо сацыялізм. Гегелеўская антыномія тэзісу «ўсё, што існуе — разумнае» і антытэзы «ўсё, што існуе — неразумнае» вырашаецца праз сінтэз: «усё, што існуе — творчае». Замест рэвалюцый — творчая эвалюцыя, якая абапіраецца на духоўнае абнаўленне грамадства і асобы.

Абедзве ідэі маюць глыбокія гістарычныя карані ў раннім славянафільстве (І.Кірэеўскі, А.Хамякоў, І.Аксакаў і інш.). Аднак ці ёсць будучыня ў рускай і беларускай ідэй? Ці здольныя яны на творчую інтэграцыю? Аргументаваны адказ на гэтыя пытанні, як нам падаецца, можа даць толькі грунтоўны гісторыка-філасофскі і культурна-гістарычны аналіз.

Абодва тыпы сацыяльнага жыцця і культуры (Усход і Захад) схільныя да месіянства і «мірнай» экспансіі, да не заўсёды ўсвядомленага прыціску «іншатыпных» культураў. Г.П.Фёдараў бачыў рысы «еўрапейска-амерыканскага чалавека» ў павелічэнні нівеліроўкі, якая адбываецца з прычыны агульнага крызісу «нацыянальнага духу» — што ёсць вынікам сучаснай масавай культуры. Таму «пакаленне, якое не памятае радства», на яго думку, — гэта зусім не выключна руская, але інтэрнацыянальная з'ява. Яна была падрыхтавана ўсёй хадой еўрапеізацыі і мадэрнізацыі, што няўхільна набірала сілу ў Расіі пачынаючы з 60-х гадоў мінулага стагоддзя.

Р.Арон, аналізуючы прычыны, па якіх Еўропа страчвае пазіцыі лідэра, на першае месца ставіць «дзве гіпербалічныя вайны», якія прывялі да катастрафічных разбурэнняў, распаду еўрапейскага ансамбля, «справакавалі савецкую рэвалюцыю», у выніку чаго Еўропа «спынілася перад межамі Савецкага Саюза». Пасля другой сусветнай вайны Еўропа паказала ўражальную эканамічную жыццястойкасць, дала падставы назваць перыяд 1945 —1975 гг. «бліскучым трыццацігоддзем». Аднак у бліжэйшы час ёй прыйдзецца спаборнічаць з іншымі краінамі, якія засвоілі (найменш у эканоміцы) заходні спосаб думкі і дзеяння.

Еўрапейцы змаглі дасягнуць значных поспехаў на шляху эканамічнага і сацыяльнага прагрэсу, даказаць свету эфектыўнасць сваіх метадаў. Тым больш трывожнае на гэтым фоне разбурэнне такіх заходніх каштоўнасцяў, як мараль, мастацтва, рэлігія, якія забяспечвалі росквіт Еўропы. Яшчэ большая катастрофа ў тым, што бязлітасна дыскрэдытаваныя ранейшыя каштоўнасці не заменены на іншыя. Маладое пакаленне стала ўдзельнікам эксперымента, які ніколі дагэтуль не ставіўся ў такім маштабе: жыццё без маральных каштоўнасцяў і рэлігійнае веры. На думку Ж.Фурасцье, які прапанаваў дэталёвы аналіз крызісу заходняй культуры і шляхоў яго пераадолення, выйсце заключаецца не ў супрацьстаянні, а ў саюзе навукі, філасофіі, маралі і рэлігіі. Калі Захад зможа ажыццявіць такі сінтэз, то будзе выпрацавана канцэпцыя свету і чалавека, якая здолее падтрымаць чалавецтва ў трэцім тысячагоддзі.

Апошнім часам федэралісты-лібералы ўсё часцей уключаюць у сферу ўяўленняў аб Еўропе ўсходнееўрапейскія краіны. Абапіраючыся на шэраг крытэрыяў, перш за ўсё культурнага парадку, яны залічваюць Усходнюю Еўропу да агульнаеўрапейскага рэгіёна. Даследчыкі падкрэсліваюць, што культуры гэтых краін пацярпелі ад доўгатэрміновай вымушанай ізаляцыі і што зноў стаіць задача аб далучэнні да еўрапейскай спадчыны, асабліва ў галіне палітычнай культуры і сістэмы каштоўнасцяў.

У гэтым плане важная пазіцыя, якую занялі іерархі каталіцкай царквы ў працэсе агульнаеўрапейскага яднання. Тон быў зададзены папам Іаанам Паўлам II яшчэ ў 1979 годзе падчас падарожжа па Польшчы, калі папа нагадаў «пра духоўнае адзінства хрысціянскай Еўропы, што складаецца з дзвюх вялікіх традыцыяў —усходняй і заходняй». На пачатку 80-х гадоў тэолагі К.Ранэр і Ф.Кеніг падкрэслівалі значэнне для хрысціян цэласнай Еўропы ад Партугаліі да Урала, ад Ісландыі да Мальты.

Узаемадзеянне культур мае магчымасць зрабіць магутны ўплыў на сацыяльна-палітычнае развіццё краін. Так, у другой палове XIX стагоддзя краіны Азіі і Паўночнай Афрыкі пачалі актыўна рэагаваць на культурны ўплыў Захаду. Пагаршэнне палітычнай і эканамічнай сітуацыі ў краінах Усходу, каланіяльная залежнасць і пагроза страціць нацыянальныя асаблівасці, а гэтым самым і культурныя традыцыі, прывялі да больш свядомага абмену ў галіне культурнага жыцця, а часам і да аб'ектыўнага ўспрыняцця заходняга ўплыву. Носьбітам гэтага ўплыву была мясцовая інтэлігенцыя з яе патрыятычным памкненнем узбагаціць нацыянальныя каштоўнасці, у першую чаргу ў галіне культуры. Мастацкая літаратура і публіцыстыка гэтага часу ва ўсіх краінах Усходу адзначана яркай грамадскай ангажаванасцю, адхіленнем ад традыцыйнага разумення эстэтычных і этычных функцый. Толькі невялікая частка гэтай новай літаратуры мела дастаткова высокі мастацкі ўзровень.

Практычна ва ўсіх галінах грамадскай свядомасці краін Усходу змянялася сістэмна-структурная сутнасць традыцыі. Разбураліся альбо парушаліся ідэалістычныя структуры, якія на працягу стагоддзяў былі стабільныя, гэта стала гарантыяй паступовага распаду традыцыйных стэрэатыпаў.

Адначасова ў гэтым працэсе ідэалагічнай перабудовы фармуецца грамадская і палітычная свядомасць (якая іншы раз перарастае ў нацыяналізм, даходзячы да шавінізму) як кампенсацыя ўсведамленню рэлігійнай еднасці (напрыклад, нацыяналістычныя рухі ў Індыі, у розных краінах ісламу, «культурызм» у Кітаі, рэвалюцыя Мэйдзі ў Японіі). Інерцыю ўсіх пластоў грамадскай свядомасці ў традыцыйных усходніх грамадствах парушалі шматлікія культурныя таварыствы, гурткі і аб'яднанні, якія сваёй дзейнасцю спрыялі падрыхтоўцы і здзяйсненню асобных рэформаў.

Гістарычныя паралелі тут не выпадковыя. Як адзначыў У.Сліман, брытанскі рэзідэнт у Індыі пры адным з шахскіх двароў, на падобным узроўні развіцця грамадскай свядомасці розныя народы свету паводзяць сябе больш-менш аднолькава.

Прафесар С.П.Хэнтынгтон (Гарвард) высунуў гіпотэзу пра тое, што сусветная палітыка ўступае ў новую фазу, калі ідэалогія і эканоміка не будуць больш з'яўляцца галоўнымі крыніцамі канфліктаў. За вялікі водараздзел паміж чалавецтвам і за галоўную крыніцу канфліктаў стане культура. Галоўныя канфлікты глабальнай палітыкі будуць адбывацца паміж краінамі і групамі краін розных цывілізацый. Відавочна, што цывілізацыі змешваюцца і заходзяць адна на другую і могуць уключаць у сябе субцывілізацыі. У заходняй цывілізацыі два асноўныя варыянты — еўрапейскі і паўночнаамерыканскі, у ісламскай —арабскі, турэцкі і малайскі.

«У шырокіх рамках часу гісторыя паўстае як гісторыя цывілізацый. Свет у значнай ступені будзе фармавацца ў выніку ўзаемадзеяння сямі альбо васьмі галоўных цывілізацый. Гэта заходняя, канфуцыянская, японская, ісламская, індуісцкая, славяна-праваслаўная, лацінаамерыканская і, магчыма, афрыканская цывілізацыі. Лініі разлому паміж цывілізацыямі зробяцца лініямі франтоў будучага», — піша «Нью-Ёрк Таймс». Згодна класіфікацыі прафесара Хэнтынгтона Беларусь, па шэрагу прыкметаў, падыходзіць бліжэй да заходняй мадэлі цывілізацыі.

Заходняя цывілізацыя — сучасная. Незаходнія цывілізацыі спрабуюць мадэрнізавацца, не ператвараючыся ў заходнюю. Іх ваенная і эканамічная сіла будзе павялічвацца. Таму Захаду прыходзіцца ўсё больш прыстасоўвацца да гэтых незаходніх сучасных цывілізацый, чыя магутнасць будзе набліжацца да заходняй, але чые каштоўнасці і інтарэсы будуць значна адрозніваццa ад заходніх.

У сярэднетэрміновай перспектыве Захад зацікаўлены развіваць супрацоўніцтва і яднанне ў сваёй уласнай цывілізацыі, асабліва паміж яе еўрапейскімі і паўночнаамерыканскімі кантынентамі. Тут паказальны прыклад служэння бенедыктынскага кляштара ў Шэветоні (Бельгія), які ўключыў у сферу сваіх экуменічных зацікаўленняў праваслаўны Усход, перш за ўсё Расію і Украіну.

Усю гісторыю можна разглядаць (і яна пераважна разглядалася ў вузка палітычнай гістарыяграфіі) як змену працэсаў інтэграцыі і дэзінтэграцыі, у залежнасці ад таго, якая дзяржаўнасць альбо народнасць знаходзіцца ў цэнтры нашых зацікаўленняў. Гальская вайна Цэзара прынесла з сабой смерць кельцкай Галіі і нараджэнне Галіі рымскай. Распад Аўстра-Венгрыі ёсць вызваленнем Чэхіі, Польшчы і Югаславіі. Рост дзяржавы азначае пашырэнне зоны міру, канцэнтрацыю сілаў і, значыць, поспехі матэрыяльнай культуры. Аднак гібель народаў, этнасаў, якія яны паглынулі, забівае, часта на стагоддзі, магчымасць росквіту іншых культур, часам вельмі і вельмі перспектыўных, магчыма, якасна больш высокіх у параўнанні з супраціўнікам-пераможцам.

У сувязі з гэтым паўстае пытанне, якую ролю зможа адыграць беларускі этнас? Ці стане ён новым «балцкім субстратам», альбо застанецца магутным «славянскім фактарам»?

Для адказу на гэтыя пытанні мусяць разглядацца паняцці эксперыментальнай гісторыі (па К.Мендэсу), а менавіта: даследаванне кантэксту падзей і іх эвалюцыйнае ўзаемадзеянне. У межах эвалюцыйнай гісторыі неабходна далейшая распрацоўка беларускай этналогіі; паглыбленыя параўнальна-гістарычны аналіз працэсаў экспансіі (Беларусь у складзе Рэчы Паспалітай, Расіі, СССР), якія маюць велізарнае значэнне ў гісторыі. Ад археалогіі трэба чакаць цікавых вынікаў вывучэння старажытных матэрыяльных прыкметаў экспансіі.

Распрацоўваючы гіпотэзу С.П.Хэнтынгтона, гістарычны працэс можна ўявіць у выглядзе павуціння «разломаў і шчылін». Аналіз пагранічнага слоя (у гэтым накірунку працуе М.Нікалаеў) на лініях разломаў можа даць якасна новыя вынікі. Дзякуючы паспяховаму вопыту імітацыйнага мадэлявання Пелапанэскай вайны (Vст. да н.э.) А.С.Гусейнава, Ю.Н.Паўлоўскага і В.А.Усцінава з дапамогай кліяметрыі ўжо ўдалося зазірнуць за «кулісы» гісторыі.

Ці можна гаварыць пра польскую і расійскую (гэтаксама як і пра летувіскую і ўкраінскую) экспансію ў дачыненні да сучаснай Беларусі? Мы пакуль не гатовыя даць адказ на гэтае запытанне. Аўтар толькі пункцірна пазначыў лінію шляху да міждысцыплінарных доследаў па вывучэнні шматмернай гістарычнай прасторы.

**Ігар ЖУРАЎСКІ,**
**сябра Санкт-Пецярбургскага таварыства беларусістаў.**

ДУМКІ ПРА ВЕЧНАЕ

# «...А ПАТРЭБНА ТОЛЬКІ АДНО»

**ШМАТ розных распавяданняў можна пачуць сярод простых людзей. Тым больш, калі гэта твае землякі. Замілаваннем, руплівасцю, без адчаю, прэтэнзій, як ёсць, так і добра, з дзіцячаю сарамлівасцю, але і з прыкметна ўзросшай апошнім часам самапавагай і годнасцю свецяцца любыя твары. Няма на іх глянцу, бляску культуры вонкавай, але дай Божа кожнаму столькі ўнутранай далікатнасці, душэўнай сціпласці і прыгажосці, затоенай удзячнасці, колькі мае іх у сабе іншы вясковец. Менавіта іншы, бо, як кажуць у народзе, не зраўняў Бог ані лёсу, ані людзей. Постаццю, тварам, характарам, дастаткам ці адукацыяй, сямейным ці сацыяльным становішчам — чым бы ні вылучаўся чалавек у грамадстве, над ім паўстае ва ўсёй сваёй ёмістасці культура. Яна нібы пчаліная рамка з ячэйкамі-сотамі: культура паводзін, культура пачуццяў, культура адносін, культура працы, культура вытворчасці, культура мовы, культура духоўная... Бадай што час прыпыніць пералік, бо акрэслілася галоўнае — духоўнасць. Калі працягваць далей параўнанне, зноў завітаўшы ў пчалярства, то яна, культура духоўная, быццам прапаліс, пахучая смолка-шпаклёўка, клей-дэзінфектар, які дае вуллю чысціню паветра, цяпло. Як жа патрэбны яны, чысціня і цяпло, для душы чалавечай!**

Пануе, ох, як моцна пануе і ў вёсцы злодзейская прагнасць, як кваліцца люд на дарэмшчыну! Куляюцца за гарэлку ў падвор'і мяхі збажыны ці іншай прадукцыі, а то і тачкі, прычэпы, з поля, свірна ці фермы... Нават слова «фермер» у большасці вёсак дагэтуль было іншасказальнае: гэта той, хто даглядае на калгаснай ферме жывёлу, адгружаючы харч і на патрэбы ўласныя. І начальства не грэбуе падкарміцца даступнай калгаснай дарэмшчынай...

Паміж сабою вяскоўцамі аб усім гаворана-перагаворана, а тут з'яўляецца новы слухач. І пайшлі-паплылі паўторы-гісторыі пра справы калгасныя, пра дзяцей, унукаў, бацькоў, здарэнні жыцейскія, пра хваробы, бальніцы, урачоў. Дарэчы тут прыгадаць Чэхава, заўвагу ягоную, што самае непрыемнае для чалавека —хваробы, але чамусьці пра іх гаварыць любяць больш за ўсё. Дарэчы, і слухаць іх надзвычай цікава, калі здарэнні прыперчаны ўдалымі жартамі, ці вымаўленне той ці іншай хваробы смешна скажаецца (наўмысна ці ненаўмысна, адразу і не разбярэш: шамяцічаскі інсульт, кастадроз, енакадрыля), калі наперабой усхваляюцца «ўнімацельныя» дактары; калі ідуць развaжанні аб неадольнай празе жыцця ў старэчым узросце; як дзевяностагадовая бабулька перад смерцю просіць прынесці у пасцель увесь вывадак куранятак; ці пакепліванне над скваnным суседам, які «раздуўся, як парасон», насыпаўшы сабе поўныя боты і кішэні падчас узважвання яму амаль паўтоны за працадні...

Нярэдка можна пачуць, асабліва ад цяжка хворых, нараканні на Бога, маўляў, за што, за якія грахі пакуты такія? Чалавек гэтым нібы ўтварае сабе абалонку ўласнай бязгрэшнасці, уцякае сам ад сябе, імкнецца схавацца ў пачэсна-выратавальную іпастась праведніка, якім быць не імкнуўся дагэтуль. Заўважана: найбольшым грэшнікам сябе лічыць той, у каго менш за ўсё гэтых самых грахоў. У той час, як праведніку ўжо недастаткова адных толькі запаведзяў — усім сэрцам сваім ён спасцігае блажэнствы Гасподні — заскарузламу грэшніку няўцям нават сем смяротных грахоў, сутнасць якіх: гнеў, ганарлівасць, маркота, абжорства, зайздрасць, срэбралюбства, пралюбадзейства. «Я не горш за астатніх», «я такі, як усе людзі», — убаюквае ён самога сябе, сваё сумленне, усё болей вязнучы ва ўласных заганах, сярод якіх і распуста, і зайздрасць, і гнеў, і завышаны клопат пра страўнік — радовішча нізкіх пачуццяў, а то яшчэ часам шукае карысці праз цёмныя сілы: варажбу, забабоны, наветы. Але нікому з нас не ўцячы ні ад сябе, ні, тым больш, ад Бога. Кожны з нас мае свой крыж і павінен несці яго, як хрысціянін: не наракаць, а праз пакаянне прасіць дапамогі ад Неба, каб даў Бог сілы вынесці, вытрымаць усё без спакушэнняў. «Няможна клясці чалавека, бо на самім усё адаб'ецца», «Ці ж хварэлі б так, мерлі, як мухі, людзі, каб не здрадзілі Богу?», «Незамоленыя грахі з рода ў род пераходзяць, на галовы дзяцей, унукаў і праўнукаў рушацца», «Што заслужылі, тое і атрымліваем, таму так блага і жывём», — вось яны, каласы народнай мудрасці. Як усё проста і як высока! Размовы маіх землякоў пра смерць, пра грахі — невыпадковыя: нацярусіў і над Случчынай попел Чарнобыля. Бярэзнічкі вакол могілак замест салаўінага пошчаку і сінічкіных ціньканняў ці іншага пераззвону птушынага ўсё часцей аглушаюцца развітальнымі прамовамі, невыноснымі галашэннямі, жалобнымі стогнамі. Крыўдна і недарэчна, што не толькі Чарнобыль таму прычынай. У гэтую горкую прозу пранізліва, адвольнаю рыфмай урываецца балючая тэма п'янства і алкагалізму. Да гарэлкі люд ахвочы, быццам ліха кросны тчэ. Піць гатовы ўдзень і ўночы абы што, абы пячэ. Аднак пячэ, вельмі балюча пячэ само гэтае ліха. Пячэ сям'і, грамадству, дзяржаве. Пячэ праз высіленне мазгоў, праз матэрыяльныя страты, праз нямогу цела, праз здрадніцкі скасаваныя жыцці. Да скону будзе пячы яно маці Аляксандра К., дзябёлага, пакладзістага, з сарамліваю пунсовасцю і смяшынкай на вуснах добразычліўца, але і задзірлівага забіякі ў падпітку. Алкагольная дурасць заўсёды за штонебудзь чэпіцца, то шпурне ў агрэсію, то надасць дураслівасці. А тут яшчэ і брат — выпівоха, крыўдзіцель маці, сябры «дбайныя», са сваёй «справядлівасцю» кожны, а то і з уздыбленай помстай. Дзе толькі не наўстаўляла сваіх шурпатых кліноў у добрыя адносіны паміж людзьмі, у мір і згоду паміж блізкімі згуба-гарэлка... Колькі праглынула жыццяў, сярод якіх і жыццё бацькі гэтых хлапцоў. Сашу тады было дванаццаць гадкоў. Цяпер ён сам, злачынна знявечаны пры нявысветленых абставінах, у стане «моцнага ап'янення» (заключэнне медэкспертызы) пад коламі аўтамашыны адышоў у нябыт, акрэсліўшы два новыя сіроцкія кругі для сваіх дзетак, двух з паловай і васьмі гадкоў. Той стан ап'янення — падстава добрая, каб тыя «абставіны» так і пакінуць нявысветленымі. У моры спіртнога не адна праўда ўтоплена, не адна пахавана глыбей апошніх прытулкаў ахвяр. Ніводная з іх, мабыць, да Суда Божага так і не ўзнімецца. Толькі на ім, Божым Судзе, паўстане ва ўсім людскім сораме, адкрыецца голай распусніцай тая непатрэбная праўда. А пакуль што гаротная маці шчаслівая тым, што прысніўся, нарэшце, сыночак. Паведамляе аб гэтым усім навокал і ўсё шукае тлумачэнне доўгачаканаму сну, маўляў, што ж азначае сон гэты, чаму сын ёй грошы прынёс, а потым цвікоў яшчэ даў, капаючы на дарозе для слупоў ямкі. Напярэдадні абмяркоўвала яна нявестчын сон, быццам скардзіўся той, што кепска яму. «Трэба як мага больш маліцца за яго душачку ўсім вам — сам ён ужэ не ўратуецца». «Вельмі добрэ ў цэркві на ўвесь пост памінанне заказаць», — паспяшаліся суседкі з парадамі. І хоць прыватныя тыя парады, але чуецца ў іх звяртанне да ўсіх нас: не абкрадвайце сябе, людзі, забываючы пра міласэрнасць, сумленне, пра споведзь і пакаянне. Каб не было потым позна. Нездарма, мабыць, у канонах гучаць просьбы да Бога, да Багародзіцы, «каб нахабная смерць не вырвала непадрыхтаванага», бо «страшнае і грознае месца трэба будзе прайсці, разлучыўшыся з целам». Не ўсе яшчэ разумеюць, не ўсе жадаюць разумець тое, што душа наша вечная, што чалавек не знікае зусім, што адных пасля смерці чакае вечная радасць, другіх — вечныя пакуты, бо ён ёсць, той замагільны свет. І вакол нас ёсць нябачны свет розных духаў, добрых і паўшых, злых. Тайны нябачнага свету не раз прыўзнімаліся святым угоднікам Божым па іх малітвах. Вось што пісаў свайму шваргу наконт паміраючай сястры святы Феафан Затворнік: «Сястра ж сама не памрэ. Цела памірае, а твар памерлай застаецца. Пераходзіць толькі ў другія парадкі жыцця. У целе, якое ляжыць пад абразамі і якое потым выносяць, яе няма, і ў магілу яе не хаваюць. Яна ў іншым месцы. Такая ж жывая, як і цяпер. У першыя часы і дні яна будзе каля Вас...» Праваслаўная вера вучыць, што на працягу першых двух дзён пасля смерці душа цешыцца адноснай свабодай, а на трэці дзень ёй непазбежна трэба прайсці праз легіён злых духаў, праз дваццаць гэтак званых мытарстваў, дзе прыкрыя дэманы трасуць звесткамі пра ўсе грахі нашы, у якія самі нас і ўцягвалі, а цяпер намагаюцца, усе як адзін ашалелыя, хутчэй скінуць у пекла. У святога Феафана чытаем далей: «...там патрэбна ёй дапамога. Станьце тады з гэтай думкай і вы пачуеце яе кліч да вас: «Дапамажыце». Вось на чым вам належыць сканцэнтраваць, засяродзіць сваю ўвагу і ўсю любоў». Ці не таму і скардзіўся Аляксандр жонцы, што спадзяецца на дапамогу жывых? Запярэчыла маці, ускіпела нават: «Хіба хто ведае? Адтуль ніхто не прыйшоў. Гэта папы навыдумлялі ўсяго і пастоў тожэ. Самі не посцяцца, а людзей з панталыку збіваюць». Нечаканым быў выпад такі ад маці, якая сына хавала з адпяваннем царкоўным, сама хрышчоная, умее маліцца, прызнавалася нават, што пасля малітвы лягчэй пераносіцца смутак, туга. Які ж моцны ўсё яшчэ той накірунак хаяць, бэсціць духоўных асоб усялякага рангу. Такі трывалы падмурак з таго збэшчвання атрымаўся, што і да гэтага часу ўсё яшчэ да свяшчэннаслужыцеляў шмат хто дрэнна ставіцца. Адразу прыпамінаюцца раннія творы земляка нашага, Кузьмы Чорнага, і наогул антырэлігійнасць у літаратуры, агідныя вобразы ў ёй царкоўных служыцеляў. Колькі ж мярзотных ідэалагічных заказаў лягло на і без таго абцяжараныя плечы таленавітых пісьменнікаў. І характэрна, што нават у таленавітых пісьменнікаў творы гэтай тэматыкі атрымліваліся найчасцей бесталанныя. Колькі ж чыстых высокіх душ духоўных асоб у гэтым жарале ганебнага стаўлення заўчасна загінула! Таму цяпер тым, хто бачыць у духоўнай асобе намесніка Бога на грэшнай зямлі, абавязак свяшчэнны здымаць як прыкрае покрыва гэтае сатанінскае процістаянне. Здымаць праз розныя важкія прыклады. «Хто мае вушы, хай слухае».

Адзін з летніх пастоў, Пятроўскі пост, нібы адмыслова існуе для ачышчэння тых, хто дазволіў у сваім жыцці здрадніцтва, заўжды супадае з сезонам клубнікі. Няма патрэбы апісваць водар і смак гэтай ягады — напэўна, яе каштаваў кожны з нас. Дай-то Божа, каб была яна надалей даступнай для кожнага. Дык вось, наколькі я ведаю, не ўсе дазваляюць сабе ў час паста есці клубніку, нават калі і на гародзе ўласным неблагі яе ўраджай, бо гэта занадта смачная, хоць і раслінная, ежа. Навошта ў пост гэтае смачна? Хопіць і вітамiннай зялёнай цыбулькі. Чым больш аскезы, асабліва ў пост, тым больш благадаці, даброт ад Госпада...

Ці не прысутнічаў Аляксандр, дакладней, душа ягоная, пры тым выпадзе маці? Можа, таму маці грошы прынёс, каб змагла вызначыць, што цяпер найбольш патрэбна яму? Інакш навошта сказаў сын маці наступнае: «Вы мне, мама, усяго накуплялі, але гэтага мне нічога не трэба». Можа, спрабуе ён ужо з іншага свету, адкуль і далей, і глыбей бачна, накіраваць маці на самую галоўную дарогу, дарогу на вызваленне душы?..

* * *

«На працягу шляху зайшоў Ён у сялібу адну; тут жанчына, імя якой Марфа, прыняла яго ў дом свой; у яе была сястра, імя якой Марыя, каторая села каля ног Ісуса і слухала Слова Яго. Марфа ж клапацілася пра вялікае частаванне і, падышоўшы, прамовіла: «Госпадзі, ці Табе патрэбы няма, што сястра мая адну мяне пакінула служыць? Скажы ёй, каб дапамагла мне». Ісус жа сказаў ёй у адказ: «Марфа, Марфа! Ты клапоцішся і мітусішся пра многае, а патрэбна толькі адно. Марыя ж выбрала лепшую частку, каторая не адымецца ад яе».

(Ад Лукі, 10, 38 — 42).

Ларыса **РАБЦЭВІЧ-БРАНАВІЦКАЯ.**

г.Мінск.



Яшчэ адна царква — Серафіма Сароўскага Цудатворцы з'явілася на палескай зямлі. Пабудавана яна ў адным з самых маладых гарадоў Брэстчыны — Белаазерску, да таго ж у вельмі сціслы тэрмін — усяго за паўтара года. Царква асвечана ўладыкай Філарэтам.

У перапынках паміж набажэнствамі заканчваюцца ўнутраныя аддзелачныя работы. Хутка мастакі пачнуць роспіс купалаў, сцен, іканастаса. Пабудаваная царква на грошы, што сабралі вернікі, а таксама на ахвяраванні мясцовых арганізацый.

Фота Эдуарда **КАБЯКА, БЕЛІНФАРМ.**

КАНТРАМАРКА

# НЕ ВЫЖЫЦЬ БЕЗ МАГУТНЫХ КАРАНЁЎ

*РАЗУМЕЮ, цудоўна разумею, як многа яшчэ трэба зрабіць дзеля абуджэння самасвядомасці чалавека, дзеля спасціжэння ім сябе як асобы ў мінулым — цяперашнім — будучым часе. Але нельга не заўважаць і таго, што прынцыповыя зрухі ў гэтым накірунку адбываюцца. Адкрываюцца імёны і творы, асэнсоўваюцца падзеі і даты. Спакваля да нас вяртаецца памяць, а з ёю асабісты гонар і чалавечая годнасць.*

Так, на ніве нашай духоўнай спадчыны яшчэ працаваць ды працаваць. А тое, што паспела ў кароткі тэрмін узрасці, шмат у чым прабілася зноў-такі насуперак. І разам з тым пытанні —"Хто ж ён такі, беларус? Адкуль ён? І куды ён ідзе?" — становяцца ўсё менш рытарычнымі.

Зрушыць справу адраджэння, надаць яму характар паступальнага працэсу немагчыма без людзей самаадданых, самаахвярных. У нашых цяперашніх варунках — пагатоў. І такія руплівцы, дзякаваць Богу, не звяліся на зямлі беларускай. Іх не шмат: тых, хто сваёй энергіяй, душэўным запалам перамагае ўсе цяжкасці, пераадольвае ўсе перашкоды. Сярод нямногіх — Валеры Шушкевіч і Уладзімір Матросаў, якія столькі гадоў верай і праўдай служаць абранаму лёсу — Тэатру.

Творчая садружнасць артыста Шушкевіча і рэжысёра-сцэнографа Матросава мае адметную гісторыю сумесных пастановак. Гэта гісторыя працы без свайго памяшкання, рэпетыцый па начах і... абавязкова арыгінальных вынікаў.

Не складае выключэння і іхняя новая работа — монаспектакль «Дабравесце ад Уладзіміра». Хаця ён і мае прапіску пад дахам Беларускага паэтычнага тэатра аднаго актора «Зьніч», але дах гэты — часовы. Свайго прытулку па-ранейшаму няма. Пастаноўка ж зноў выклікае непадробную цікавасць у гледачоў.

Своеасаблівым пралогам, а затым і ўвогуле энергетычным полем спектакля, з'яўляецца партрэт Уладзіміра Караткевіча, напісаны Матросавым. Ужо ў фае глядач сутыкаецца з пранізліва-мудрым позіркам найвыдатнейшага з пісьменнікаў нашага часу.

Сэнсавым ядром кампазіцыі карціны выступаюць прыадчыненыя дзверы. Яны ўпісаны мастаком у неабмежаваную, касмічную прастору. Яны — памежжа паміж святлом і цемрай. Караткевіч стаіць перад дзвярыма і пластыкай постаці сваёй кліча, запрашае зрабіць намаганне і пераступіць парог, гэта будзе галоўны крок — у святло, да святла.

Мастацкая вартасць «Дабравесця ад Уладзіміра» вызначаецца адметным падыходам да ўвасаблення літаратурнай першакрыніцы, а вобразная структура пастаноўкі характарызуецца дастатковай ураўнаважанасцю сваіх кампанентаў. Твор выяўляе аўтаномнасць свайго сцэнічнага існавання, своеасаблівую логіку відовішчнасці.

Задума «Дабравесця ад Уладзіміра» прыкметна абазначаецца ўжо на ўзроўні тэксту. Аўтарамі інсцэніроўкі выступаюць Матросаў і Шушкевіч. Зробленая імі кампазіцыя выяўляе даволі шырокі спектр творчасці У.Караткевіча. Яна ўключае тэмы і вобразы раманаў, вершы, лісты да сяброў, дзённікі, што гаворыць пра імкненне стваральнікаў монаспектакля ёміста раскрыць шматгранны характар гэтага чалавека і творцы.



Калі разумець пастаноўку як сімвалічны шлях у краіну У.Караткевіча (падставы на тое, як мне здаецца, ёсць), дык ключавымі момантамі, сюжэтнымі апорамі кампазіцыі трэба прызнаць, з аднаго боку, сцэны-маналогі з рамана «Хрыстос прызямліўся ў Гародні», з другога — маналогі-прызнанні, споведзі, пакутлівыя роздумы пісьменніка, якія ўзяты з лістоў і дзённікаў творцы.

Першыя сцэны малююць, так бы мовіць, зборны вобраз «тыповага беларуса». Характар яго выяўлення вызначаецца камізмам, гумарам, дасціпнай ірoніяй. Наступныя — раскрываюць складанасць, неадольную супярэчлівасць узаемаадносінаў творчай асобы і грамадства. У іх аўтарскае «я» пісьменніка атрымлівае прамое, непасрэднае адлюстраванне. Словы з ліста У.Караткевіча: «Жыццё так сталася, што гэта зусім і не жыццё», — адчайна сведчаць пра нязбыўны душэўны боль мастака. Прасякнутыя гэтым болем сцэны-прызнанні набываюць у спектаклі падкрэслена трагічнае гучанне.

Такім чынам, жанравую прыроду кампазіцыі характарызуюць крайнія полюсы — камічнае і трагічнае. Яны ўтвараюць магутнае эмацыянальнае напружанне. У сферу іх прыцягнення ўваходзяць і драматызм «Дзікага палявання караля Стаха», і сімвалізм «Ладдзі Роспачы», і лірызм вершаў. У гэтым адмысловым спалучэнні і хаваецца дзейсны пачатак пастаноўкі. Разнастайнасць і багацце творчай манеры У.Караткевіча асэнсоўваецца як невычэрпнасць самога жыцця.

Спектакль «Дабравесце ад Уладзіміра» мае адмысловую сцэнаграфію. Рэжысёр і мастак у адной асобе, Матросаў знайшоў той сплаў вобразнасці і функцыянальнасці, які ўтварае прастору для багатых асацыяцый і дае акцёру магчымасць засяродзіцца на істотным, а менавіта: на думцы і актыўнай працы душы.

Аснову сцэнаграфіі Матросава складаюць два кампаненты. Першы на празаічнай мове называецца звычайным макетам. На ім пазначаны рэдкія хаткі, лясы і палеткі, стужкі рэк і дарог. Але на мове сцэнічнай гэта ўжо — чароўнае кола, і яго выява ўспрымаецца не іначай, як светлы вобраз Беларусі — «зямля пад белымі крыламі».

Другім кампанентам мастацкага афармлення служыць даволі простая металічная канструкцыя. Сваёй пабудовай яна нагадвае вялікую клетку. Але дзіўная рэч! Менавіта ў гэтай, на першы погляд, ардынарнасці і прастаце і выяўляецца яе вобразная шматграннасць. Калі круг-макет абрамляе спектакль, уносіць у яго прыкметы апавядальнасці, эпічнасці, дык клетка, што паварочваецца да гледача рознымі бакамі, арганізуе скразное дзеянне, задае пэўны рытм пастаноўцы.

Мастацкую абумоўленасць металічная канструкцыя нечакана знаходзіць у сцэне-маналогу Ката. Заплечных спраў майстар, ён скардзіцца на няўдзячнасць сваіх ахвяраў і выхваляецца сваімі пачварнымі вынаходніцтвамі. Ён з натхненнем распавядае, напрыклад, што майструе клетку для салаўя. З крыламі. І на сцэне аказваецца клетка — вялікіх памераў і з крыламі-сякерамі. Клетка-знак, клетка-сімвал, у якім своеасабліва раскрываецца матыў духоўнага пераадолення.

Цэласнаму ўспрыманню «Дабравесця ад Уладзіміра» садзейнічае і выразная музыка Алега Залётнева, якая заяўляе асноўныя тэмы, эмацыянальна акрэслівае галоўныя сюжэтныя вузлы пастаноўкі.

Аднак пры ўсіх вартасцях інсцэніроўкі, сцэнаграфіі і музыкі рашаючым фактарам у рэалізацыі творчай задумы спектакля з'яўляецца, безумоўна, дасканалае акцёрскае выкананне. Валеры Шушкевіч тонка адчувае шматлікія нюансы паэтыкі караткевічавай літаратуры, што дазваляе яму ўпэўнена плесці з яе мазаічныя ўзоры. Шушкевіч дасканала сплаўляе драматычны маналог з нечаканымі вострахарактарнымі эпізодамі. Карыстаючыся мінімумам выразных сродкаў, ён стварае цэлы шэраг не падобных адзін да аднаго вобразаў. Асобныя эпізоды могуць служыць узорам сцэнічнага пераўвасаблення.

«Дабравесце ад Уладзіміра» — сур'ёзная спроба тэатральнага прачытання спадчыны У.Караткевіча. Задуманае ў пераважнай ступені рэалізуецца на сцэне. Хоць пастаноўка дзе-нідзе і нясе на сабе адбітак перагружанасці матэрыялам, тым не менш яе мастацкія здабыткі пераканаўчыя. Стваральнікам монаспектакля ўдалося зазірнуць у крыніцы творчасці У.Караткевіча. Свет пісьменніка і свет яго вобразаў раскрываюцца ў адзіным мастацкім кантэксце. Праз усё дзеянне рэфрэнам праходзіць тэма Бацькаўшчыны. У кожным слове, што прамаўляецца са сцэны, чуеш любоў да роднай зямлі, трывогу за лёс яе народа, як таго старажытнага Дуба, якому аніяк не выжыць без сваіх магутных каранёў.

З адмысловым пасланнем прыходзіць да нас выдатны мастак, мудры чалавек, вялікі гуманіст. У ім зніталіся горыч і святасць, папрок і ўсхваленне, расчараванне і вера. У ім — балючае разуменне таго, як не хапае нам сёння Уладзіміра Караткевіча...

... Прызнанне гледачоў і з ім першая перамога ўжо прыйшлі. На Першым міжнародным фестывалі монаспектакляў «Я», які адбыўся ў Мінску ў кастрычніку мінулага года, Валеры Шушкевіч атрымаў спецыяльны прыз Саюза тэатральных дзеячаў Беларусі.

Творчы тандэм Шушкевіча і Матросава ўдзячны Галіне Дзягілевай, мастацкаму кіраўніку тэатра «Зьніч», якая ацаніла мастацкую значнасць «Дабравесця...» і дала яму жыццё пад сваім дахам.

**Ала САВІЦКАЯ.**

**На здымку: сцэна са спектакля.**

**Фота У. ПАНАДЫ.**

# «ВЫВУЧАЦЬ НЯПРАЎДУ НЕЦІКАВА...»

... Вельмі ўзрадаваўся, убачыўшы ў N9 «Культуры» вялікае інтэрв'ю з вядомым беларускім гісторыкам Анатолем Пятровічам Грыцкевічам. Ягонымі артыкуламі, што з'яўляліся час ад часу, я зачытваўся яшчэ, калі вучыўся ва універсітэце. Яны заўсёды ўражвалі глыбінёй і незалежнасцю думак, меркаванняў, смеласцю, неардынарнасцю падыходаў да канцэпцыі гістарычнай навукі. Тады, у 60 — 70-я гады публікацыі Грыцкевіча рэзка адрозніваліся ад прац іншых гісторыкаў, якія апантана прапаведвалі марксізм-ленінізм з ягоным «класаваматэрыялістычным» трактаваннем жыцця. Гэта было для нас, тагачасных студэнтаў, сапраўдным глытком свежага паветра ў затхлай атмасферы «адзіна вернага» накірунку...

Зараз, калі часы камуністычных догмаў паступова адыходзяць з жыцця грамадства, калі адбылася сапраўдная «пераацэнка каштоўнасцей» у свядомасці людзей, артыкулы Грыцкевіча можна сустрэць не толькі ў спецыялізаваных вузка-профільных гістарычных часопісах, але і ў папулярных масавых выданнях культурна-асветніцкага напрамку. Прыемна, што Анатоль Пятровіч —пастаянны аўтар і газеты «Культура», я асабіста спадзяюся на новыя сустрэчы з ім на старонках штотыднёвіка.

... Ужо пятнаццаць гадоў я працую ў сярэдняй школе выкладчыкам гісторыі і грамадазнаўства, таму мой інтарэс да праблемаў сучаснай гістарычнай навукі і яе паліталагічных аспектаў зусім не выпадковы. Мне даводзіцца працаваць з тымі, каго мы звыкла называем «падлеткамі», маючы на ўвазе нешта сярэдняе паміж дзяцінствам і «дарослым» жыццём. Гэта — складаны ўзрост, але адначасова надзвычай цікавы. На педагагічных нарадах і ў прыватных размовах з калегамі-настаўнікамі я неаднаразова чуў меркаванне, што «дзяцей зараз нічога не цікавіць, акрамя грошай». Можа, гэта часткова і верна, але ж ці ўмеем мы, настаўнікі ды выхавацелі, захапіць сваіх вучняў прагай да ведаў, абудзіць у іх цікавасць да свайго прадмета? Думаю, не заўсёды... А гэта ж наш прафесійны абавязак.

Некалькі гадоў запар я заўважаю ў сваіх вучняў нейкую абыякавасць да гісторыі. Яны ўспрымаюць мой прадмет як нешта абстрактнае, адарванае ад жыцця, штучнае. Калі я спытаў у адной 16-гадовай дзяўчыны, чаму так адбываецца, дык пачуў: «Гісторыя чужая нам, яна — як фантастыка: у кніжках — адно, а на самой справе, аказваецца, было зусім іначай. А няпраўду вывучаць нецікава...». І мая вучаніца мае рацыю.

Яшчэ на пачатку навучальнага года я прапанаваў сваім выхаванцам у якасці доўгатэрміновага задання скласці генеалагічнае дрэва сваёй сям'і, свайго роду, падрабязна растлумачыўшы, дзе ў гэтай «расліны» корань, як з'яўляюцца галіны ды вяршыня. І, ведаеце, я нават сам быў уражаны вынікамі «сямейных доследаў» вучняў: яны расшуквалі дадзеныя сярод старых сямейных фотаальбомаў, распытвалі сваякоў, пісалі лісты ў іншыя гарады ды краіны, адзін хлопец нават звярнуўся з запытам ў Замежную юрыдычную калегію, каб сабраць звесткі пра сваіх родных, што жылі і памерлі за мяжой. Хлопцы і дзяўчаты, якія раней ведалі хіба што сваіх бабуль і дзядоў (ды і тое не ўсіх), знайшлі звесткі пра свае карані пачынаючы ледзь не з XVIII стагоддзя! Колькі спрэчак было ў час складання «дрэваў роду», колькі невядомага ды захапляльнага даведаліся яны аб мінулым сваёй сям'і, адчуваючы сябе сапраўднымі нашчадкамі і спадкаемцамі той неўміручай памяці, што была закадзіравана ў генатыпе і толькі зараз стала бачнаю...



Вынікі даследаванняў былі настолькі надзвычайнымі, што мы вырашылі зрабіць выставу пад назваю «Мае славутыя продкі». Тут былі прадстаўлены атэстаты і дыпломы аб заканчэнні навучальных установ часоў Расійскай імперыі з двухгаловым арлом на вокладцы, ордэны і медалі розных часоў ды ўладаў, даведкі аб пасмяротнай рэабілітацыі Вярхоўным судом СССР... Але ж галоўны вынік, я думаю, гэта абуджэнне цікавасці маладых людзей да мінулага сваёй сям'і і праз гэта — да мінулага ўсяго народа, сваёй Бацькаўшчыны. Бо цікавым можа быць толькі тое, што блізкае, што закранае нешта ў глыбіні сэрца...

Мне здаецца, і выкладанне гісторыі (як, дарэчы, і іншых дысцыплін) павінна стаць больш канкрэтным, адрасаваным кожнаму, хто яе вывучае. Гісторыя — не «мёртвы матэрыял», за ёй стаяць жывыя людзі і трэба данесці гэта да нашай моладзі, зацікавіць яе. Але, пры гэтым, як адзначыў А.Грыцкевіч, не коштам танных сенсацый, а шляхам асэнсавання. Асэнсавання часу, прасторы і нашай непарыўнай сувязі з імі...

**Анатоль КАЧАН.**

г.Баранавічы.

Барыс Крэпак

# ЗАБЫТЫ ДВОЙЧЫ...

## Роздум, факты, дакументы пра творчасць Р.М. Семашкевіча.

*(Заканчэнне. Пачатак у № 10)*

ТАК, мастак не падзяляў суткі на раніцу, дзень, вечар, ноч. Яму заўсёды не хапала рабочага часу. Спаў ён тры-чатыры гадзіны, астатнія дваццаць — праца за мальбертам. Але паўставалі праблемы: чым і на чым пісаць, рысаваць, рэзаць гравюру? Чорная глухая галеча душыла мастака. Грошай не хапала не толькі на палатно і фарбы, але нават на хлеб і гарбату. І гэтае хранічнае становішча без грошай прымушала Семашкевіча пісаць на тым, што трапляла пад руку.



У яе баліць жывот. Туш. 1931.

Сябры ўспамінаюць, што з-за немагчымасці набыць палатно ў справу ішлі насоўкі, цырата з кухні, ручнікі і нават начныя кашулі (і не толькі свае). Здзіўляла вось што. У самых складаных, нядобрых сітуацыях, Семашкевіч трымаўся з пачуццём годнасці, застаючыся заўсёды самім сабой. Бескампрамісна цвёрды ў характары, у сцвярджэнні сваіх прынцыпаў, ён у той жа час быў безабаронным, няздольным адстойваць свае бытавыя інтарэсы. У гэтым увесь Семашкевіч! «Я хачу жыць, але не філасофстваваць», — часта любіў паўтараць ён. Жыць — у яго разуменні — гэта пісаць кожны дзень і ўвесь дзень.

Н.Васільева: «Што і як ён пісаў? Пісаў шмат і хутка. Чым хутчэй пісаў, тым лепей атрымлівалася. Пісаў шмат партрэтаў, асабліва любіў старых, паляўнічых; пісаў пейзажы гарадскія, пейзажы са статкамі коней, кветкі. Пісаў у парушэнне ўсіх догмаў і правілаў. Ягоны жывапіс вызначаўся яркай смеласцю ліній і самых складаных колеравых рашэнняў, дзіўнай колеравай насычанасцю. Р.Семашкевіч не любіў бялілаў. Ён казаў, што бялілы збядняюць колер. Ягоная палітра складалася з чыстых фарбаў. Яны і сёння гараць у маіх вачах. А вывучэнне мастацтва скульптуры надало ягонаму жывапісу і малюнку асаблівую важкасць, нязмушанасць, узмацніла іх гучанне, паглыбіла майстэрства... Семашкевіч усё рабіў сам. Нацягваў палотны, грунтаваў, скалочваў падрамнікі, падбіраючы для гэтага кожную дошку. Праз край лілася магутная сіла, якую адпусцілі яму нябёсы. Бясконца пісаў і рысаваў мяне і ўсіх, хто трапляў пад руку. Часта пісаў па напісанаму, пісаў на палатне, фанеры, кардоне, паперы. За паўгадзіны — партрэт. Часам па некалькі палотнаў у дзень. Заканчвалася палатно — пяро і туш. Пісаў з натуры і без яе. Яму не патрэбны былі ніякія падмалёўкі, ніякія абводкі».

Вядома, у Семашкевіча былі добрыя сябры, якія дапамагалі яму і ў творчасці, і ў быце. Яго апекаваў вядомы крытык і перакладчык Сяргей Ромаў, які незадоўга да таго прыехаў з Парыжа, дзе пражыў не адно дзесяцігоддзе. Тонкі знаўца мастацтва, Ромаў быў чалавекам адукаваным, сябраваў з Пікасо, Мацісам, Марке. Менавіта ён адзін з першых заўважыў творы Семашкевіча на выставе выпускнікоў «ВХУТЕИНа» і падтрымаў маладога мастака. Уладзімір Татлін, выдатны авангардыст XX стагоддзя, дапамог Семашкевічу атрымаць майстэрню на трэцім паверсе ў вежы Новадзявочага манастыра. Раман з задавальненнем нават распісаў яе. А паверхам вышэй размяшчалася майстэрня самога Татліна.



Мужчынская фігура. Алей. 1930.

Б.Рыбчанкоў: «У канцы 1935 года я «адкрыў» вялізнае значэнне таленту Семашкевіча, яго глыбокую сувязь з творчымі ўзлётамі Ніко Пірасманішвілі і Вінцэнта Ван Гога, толькі не ў сэнсе пераймальнасці. Агульнасць іх духу зыходзіла з непрадказальнай апантанасці працай, з гранічнай галечы і лютага непрыняцця іх творчасці грамадствам сытых. І яшчэ з дзіўнай прыцягальнасці абсалютнага непадабенства іх жывапісных рашэнняў».

Відаць, трэба расшыфраваць справядлівы закід Рыбчанкова, які лепш за ўсіх ведаў Семашкевіча як мастака і чалавека. Сапраўды, творы Пірасмані захаплялі Рамана Мацвеевіча наіўна гарэзлівай праўдай сюжэта, дзёрзкасцю колеравых сутыкненняў, непарыўным зліццём зместу і пластычнай формы, артыстызму і прымітыву. А ад Ван Гога Семашкевіч узяў абвостраную страсць да каларыстычнай свежасці, да яе навізны, любоў да простых сюжэтаў, да лакальных колеравых канфліктаў, да таго, каб кожны сантыметр палатна ўтойваў у сабе непаўторную эмацыйна-колеравую аддачу. І тут Семашкевіч дасягнуў многага, пра што сведчаць яго карціны, якія захоўваюцца ў Музеі імя Пушкіна і ў Рускім музеі, у Траццякоўцы і ў Нацыянальным мастацкім музеі Рэспублікі Беларусь, у музеях Нікалаева, Таганрога, Яраслаўля, у прыватных калекцыянераў.

У 1932 годзе Семашкевіч накіраваўся ў творчую камандзіроўку па Беларусі. Тут ён арганізаваў свае персанальныя выставы ў Петрыкаве, Мазыры, Мінску. На выставу ў Мінску з захапленнем адгукнулася газета «Звязда». Менавіта ў гэты час Семашкевіч і ягоная жонка гасцілі спачатку ў Янкі Купалы, а потым у Якуба Коласа, з якімі мастак вельмі зблізіўся. Апошняя творчая паездка жывапісца на Беларусь, на Лепельшчыну, адбылася ў апошні год ягонага жыцця, незадоўга да арышту.

Б.Рыбчанкоў: «Раман упарта крочыў да сваіх вяршыняў. Ён свядома ішоў на рызыку, імкнучыся немагчымае зрабіць магчымым, пераўтварыць дысгармонію, якая рэзала вока, у жывапісны шэдэўр. Талент Семашкевіча дапамагаў яму вынаходзіць нестандартныя каларыстычныя ўдачы, вырашаць найскладаныя колеравыя канфлікты. А ў ягоных графічных аркушах мяне ўзрадавала паганская перакананасць у праве мастака на сінтэз лаканізму наскальных адлюстраванняў пячорнага чалавека і звышвытанчанага артыстызму Дзюфі, Ропса і іншых французаў. Дасюль у думках бачу малюнак Семашкевіча «У яе баліць жывот» — усяго некалькі завостраных ліній, але якая хватка!.. Такое пад сілу не таленту, а найвялізнаму таленту».

У 1991 годзе ў Траццякоўскай галерэі на Крымскім вале адбылася першая пасля смерці Р.Семашкевіча персанальная выстава яго твораў. Там было няшмат карцін, больш рысункаў. Выстава зачаравала. Коні, якія выскоквалі з рамаў у нервовым памкненні, шэры ад дажджу горад, жаночыя вочы. Ён пакінуў паўсюль сваю аўру. Крыху смешныя фігуры паляўнічых, чорная рака, па ёй плыве лодка. Прыпяць. Жанчыны мыюць бялізну. Аўтапартрэт у кепцы з папяросай у зубах — погляд стомлены, але адухоўлены. Партрэт жонкі Надзеі Міронаўны на фоне вясенніх дрэваў і ўтульнага доміка ў глыбіні: кароткая прычоска, вочы востра ўзіраюцца ў гледача, вусны сцятыя. Завулак у Замасквар'ечы —шчодрасць і важкасць колеравай пластыкі. Вулічная весялосць —яскравая дынаміка і раскаванасць штрыха. Мазыр — надзвычай трапяткая ажурная лінія, майстэрскае валоданне пяром. Фізкультурнікі, якія на апошнім дыханні бягуць у нікуды...

Семашкевіч удзельнічаў у трынаццаці выставах, правёў некалькі персанальных. Да 1937 года ў яго было каля 700 палотнаў і незлічоная колькасць малюнкаў. Колькі іх было б яшчэ?..

У.Стальмашонак: «1988 год. У дні, калі ў Маскве адбываўся Усесаюзны з'езд мастакоў, мне на вочы трапіла нататка, якая расказвала пра вечар памяці і выставу твораў мастака Рамана Семашкевіча ў малой зале ЦДМ на Крымскім вале. Амаль 50 гадоў яго імя было ў небыцці: у 37-м ён быў незаконна рэпрэсіраваны... Даведаўся я і пра тое, што ў Маскве жыве ўдава мастака Надзея Міронаўна Васільева. Наша дэлегацыя вырашыла паехаць да яе, каб распытаць пра жыццё жывапісца Семашкевіча, пазнаёміцца з яго творамі, якія ўдалося захаваць. Калі паглядзелі карціны і



Мазыр. Туш. 1932.

малюнкі майстра, прапанавалі Надзеі Міронаўне зрабіць персанальную выставу мастака-беларуса ў Дзяржаўным мастацкім музеі БССР. Цяпер дакладна магу сказаць, што пытанне гэта вырашана: восенню шматлікія прыхільнікі жывапісу і графікі змогуць пазнаёміцца з творчай спадчынай таленавітага майстра».

Але вось прыйшла восень 88-га. Потым яшчэ восень, і яшчэ. А выстава нашага цудоўнага земляка так і не адбылася. Цяпер ужо няма сэнсу шукаць вінаватых. Можа, і былі якія-небудзь аб'ектыўныя прычыны, на што мы любім так часта спасылацца. Мабыць, проста забыліся. Махнулі рукой. Але ясна адно: калі можна было зрабіць гэтую выставу — не зрабілі, а сёння думаць пра выставу мастака, асноўныя і ацалелыя творы якога знаходзяцца ў чужой дзяржаве, нерэальна, ды і няма каму.

Суцяшае, аднак, што ў мастацтве таленавітае можна параўнаць з той казачнай Саламандрай, якая не згарае: рана або позна многае вяртаецца з горна часу, хаця і абпаленае часам, але ўсё ж не згарэлае. А яшчэ хочацца верыць, што імя Рамана Мацвеевіча Семашкевіча ўрэшце зойме сваё пачэснае месца на старонках беларускіх энцыклапедый і даведнікаў, у альбомах па выяўленчым мастацтве XX стагоддзя, карацей кажучы — у гісторыі нашай багатай нацыянальнай культуры, бязлітасна скалечанай крывавым лязом савецкага таталітарызму.




# А вобраз перадач — Тацяна

Няйначай, лаўры энцыклапедычныя не даюць мне спакою. Вызначэнню артыкула «Тэлебачанне», у прыватнасці «Беларускае тэлебачанне», не патрапляю надаць пэўнасці дэфініцыі. Спрабавала зірнуць здаля (вялікае нібыта можна ўгледзець толькі такім чынам). З'ехала на вабную адлегласць — віленскую, але з Вільні, дакладней, у Вільні, мне пашэнціла на перадачы іншага, інакшага, нетутэйшага тэлевізійнага кшталту...

Рэдакцыя беларускіх тэлеперадач Летувіскага тэлебачання існуе ўжо тры гады. Існуе, штучна-адмысловым чынам прыяднаная да рэдакцыі з перадачамі рознамоўнымі, ад украінскай да яўрэйскай пад назваю «Сантарвэ» ("Згода"), чынна пыніць сваю немудрагелістую нацыянал-меншасную гаспадарку. Як паводле маіх уяўленняў, дык проста рэдакцыя-мроіва — з адзінай рэдакташкай, на чале і пры выкананні, Т.Дубавец! Якая, па сутнасці, сама і ёсць — рэдакцыя...

Т.Дубавец, вядомая тутэйшай абазнанай публіцы як стваральніца й натхняльніца знакамітай радыё-"Альбаросікі", перадачы вытанчанай і разумнай, нягледзячы на тое, што беларуская, на сваёй віленскай рабоце звыкла занятая перамовамі з «аператарскім корпусам», штукаваннем сюжэтаў ды нітаваннем апошніх у пятнаццаціхвілінныя блокі, лепей сказаць — цаглінкі, што спраўна кладуцца ў падмурак будучага беларускага віленскага нечага... мройна-невымоўнага, далікатна-стомленага і пакуль што — за мяжой чалавечага слова, адраджэнскіх настрояў і агульнаадукацыйных магчымасцяў вядомых мне тэлевізійных спецыялістаў. Хай толькі не крыўдуюць — магчымасці майго настрою з налаўчонасцю таксама вымагаюць розных слоў... Тацяніны перадачы — зайздросліва-ўхвальных. Ад выяў, каментараў, музычных суправодзінаў і г.д. патыхае стылем, калі можна ўсур'ёз разважаць пра стыль на тэлебачанні. Нібы водгулле позніх рамантыкаў, гэтых лірычна-іранічных ці іранічна-лірычных грамадзян свету, лашчыць глядацкую пачуццёвасць ля віленскіх тэлеэкранаў тройчы на месяц па суботах. Беларускія праграмы, паводле шмат чыіх назіранняў, заўсёдна даводзяць добры густ сваіх стваральнікаў — суладдзем выявы (карцінкі), музыкі і тэкстаў вядучай Т.Дубавец, — яна, карыстаючыся найвышэйшай ухвалою тутэйшых крытыкаў, умее пытацца й выслухаць адказы на свае пытанні. Аднаго гэтага стала б з лішкам для прыстойных выхадаў у эфір, а ў Т.Дубавец ёсць яшчэ некалькі неацэнна-тэлевізійных якасцяў, перадусім хваравітае стаўленне да так званага адчэпнага ў кадры ды за кадрам (маўляў, глядач з'есць). Віленскі беларускамоўны глядач «харчуецца» тэледалікатэсамі, таму і звоніць кіраўніцтву тэлебачання з нагоды-без нагоды, варта перадачы затрымацца... Званілі і з нагоды скарачэння Тацянінага эфіру, наракалі, маўляў, у беларусаў віленскіх тэлерадасцяў няшмат, нашто ж іх скарачаць, закрываць, аддаляць, калі адабраныя хвіліны ніхто (прынамсі пакуль) не верне? Не сказаць, каб суцешыліся хутка, але з трыццаці хвілін, што засталіся, недвухсэнсоўна вынікнула: Т.Дубавец усё адно абдыме неабдымнае, спалучыць неспалучальнае, выправіць невыпраўнае. Талент, моцна перапрашаю, не скароціш.

... Памятаю, як няўгледна-трывожна знікала з беларускага эфіру «Альбаросіка». Знікала... ад перадачы да перадачы, бо ад перадачы да перадачы рабілася незаменнейшаю, выбітнейшаю, а шчасцю, альбо радыёшчасцю беларускага радыёслухача проста не наканавана быць пэўным, працяглым у часе. Таму скарачэнне беларускага эфіру на Летувіскім тэлебачанні я тлумачу проста —ашчаджэннем таленту Т.Дубавец. Або знакам, што і на Беларускае тэлебачанне ўплыў ейнага таленту трэба распаўсюдзіць.

Расповяд пра тое, як Т.Дубавец выпускае «зайздросна высокапрафесійныя перадачы» (цытую рэжысёра Летувіскага тэле Стасіса Кавалюкаса) альбо «ўласную абаяльнасць магнэсава перадае сваім тэлестварэнням» (цытую аператара Ёнаса Гурскаса), — ці ж не млявы перабор кампліментаў? Самы шчыры яшчэ можна пачуць ад Броніка Лашкевіча, майго чатырохгадовага сына, які пазнаёміўся з цёткай Таняй падчас домалітаратарскай сумнай вечарыны «Нашай Нівы»; паміж іншым высветлілася, як ненавязліва-некакетліва працуе рэдактар Т.Дубавец з дзецьмі, як умее, застаючыся ў межах напрацаванага ці знойдзенага вобраза, асвяжыць яго альбо развіць. Ці на факультэце журналістыкі Беларускага універсітэта, чый дыплом Т.Дубавец мае гонар трымаць у шуфлядзе, навучалі паводле Станіслаўскага? Дазвалялі дзеткам-кветкам, як цётка рэдактарка з цёткай аператаркай (Наталля Калеснік), глядзець у акуляр камеры, цiснуць на кнопку і... радавацца? Радавацца нават сумным прамовам дзядзькоў, якія выступалі са сцэны на вечарыне і ўвайшлі ў перадачу такімі, —якімі здаліся здымачнай групе? Сярод пуставатае залы аўтары перадачы пра «Нашу Ніву» ўгледзелі некалькі дзіцячых тварыкаў, — менавіта яны і далі ўяўленне пра будучыню новаадроджанай газеты...

Заўважу, што даўмецца-назваць бясспрэчныя вартасці беларускіх праграм Летувіскага тэлебачання, арыентуючыся на сістэму каштоўнасцяў тэлебачання беларускага, мне складана. Куды прасцей вызначыць, чаго ж ім бракуе. Да прыкладу, бракуе ледзь не паўсюдна-мінскага непаважлівага стаўлення да суразмоўцы ў кадры, дасціпна-дасужых каментараў за спінаю гэтага суразмоўцы або дзяжурных кепікаў-кпінаў — з урадавых рашэнняў, з прамоў Зянона Пазьняка, з гарадскога транспарту, грошай, мытняў, прыбіральняў; істотна не хапае расчуленае міны з нагоды чарговай партыі гуманітарных прапагандыстаў Ісуса, не стае выклікаў «а што ж гэта робіцца» ды высноў «што ж, пакуль гэткае будзе рабіцца...». Т.Дубавец сваю гаспадарку пыніць адна. Я так разумею, ёй няма часу пяяць Лазара, прадказваць Апакаліпсіс і судзіць бліжняга свайго за кожную недасканаласць. Апошнім часам, праўда, яе перадачам забракавала суворага мужчынскага голасу ў кадры, і рэжысёр Стасіс Кавалюкас узяўся за беларускую мову. Ягонае каларытнае маўленне й лексікон, які пачынаўся са слова «бадай», узрушылі калегаў. На спатканні з імі дзесьці ў Клайпедзе Стасіс замест вітання пачуў: «А, бадай!». «Значыць, глядзяць і там, — зрабіў выснову Стасіс, апавядаючы мне пра гэты факт, — у Вільні глядзяць даўно...». Папярэджу, што сатворца Т.Дубавец не самага сур'ёзнага рэжысёрскага гарту. У кадры ён можа нюхаць кветкі (як у перадачы напярэдадні жаночага свята), мацаваць шыльды (як у перадачы пра беларускую школу), качацца ў апалым лісці альбо, як згадвалася вышэй, казаць «бадай!».

З аператарам Ёнасам Гурскасам мне выпала пазнаёміцца падчас трыумфавання беларускага тэатральнага мастацтва на сцэне Летувіскай нацыянальнай драмы. Ёнас фільмаваў продаж сувеніраў, гранне на народных інструментах, засяроджаныя твары прадстаўнікоў «Сябрыны», спатканне лідэраў суседак-незалежніц, Беларусі й Летувы, лідэравы прамовы, усмешкі, адседжаныя нагавіцы, ганаровую варту альбо ахову. Там сама, на імпрэзе ў тэатры, Ёнас зняў натхніцеля і рупліўца Купалавых «Тутэйшых» Мікалая Пінігіна. Гэтага было дастаткова, каб святлом зоркі беларускай рэжысуры засвяціліся вочы лепшай (прыгажэйшай) паловы беларускага віленскага адраджэння. Не змоўчу і пра тое, што зняты з адной (! — варта-ахова замінала) кропкі спектакль выглядаў на экране відовішчам захапляючым.

Рэдактар Т.Дубавец шчыра дзякавала святкаванню Дзён беларускай незалежнасці, хор «Унія» — Т.Дубавец. У самотны дзень перахавання праху І.Луцкевіча занатавалася на стужцы першае выступленне «Уніі». Падчас радаснага сакавіка пасталелыя спевакі разглядалі на маніторы свае ўзрушана-збялелыя насы, — з залы, дзе яны мусілі спяваць, патыхала водарам позніх рамантыкаў... Рамантыка спеваў сталася вобразам гэтай перадачы.

На выстаўцы суполкі «Пагоня» ў тыя сакавіцкія дні я ўбачыла віленскага мастака Уладзіміра Кузьменку і смела рушыла да яго. Скуль было ведаць збянтэжанаму Кузьменку, што я ўжо ведаю ягоны экранны вобраз! Што магу распавесці яму ўжо пра перагуканне віленскіх вулак з выявамі на ягоных палотнах, пра тое, як вызвалялі яго ў сорак чацвёртым у Нямеччыне амерыканцы: два палякі і адзін негр, — так расказваў ягоны экранны двайнік. Гармонія нашага паразумення ўсталявалася хоць і вымушана, ды ўсмешліва, дастаткова было мне заўважыць: «А я вас у Тані Дубавец бачыла, па тэлевізары...».

Дарэчы, падчас здымкаў перадач пра святкаванне 25 сакавіка і надарылася маё добрае знаёмства з прадстаўнікамі Летувіскага тэлебачання, рэдакцыяй «Сантарвэ» ды спадарыняй рэдактаркай Т.Дубавец. Клянуся. Бо да спаткання з Тацянай у Летувіскай нацыянальнай драме я ўсур'ёз аплаквала «Альбаросіку»...

Галоўныя дзейныя асобы Тацяніных перадач — людзі. Людзі, якіх трэба задужа любіць, каб здымаць — так. Пры гэтым самой так весці гаворку, каб не назаляць гледачу ні сваім розумам, ні пачуццём гумару, ні ўборам. Тацяніны прыязнасці часцяком падзяляюць аператары, а ці не ў кожным з іх хаваецца мастак! Таму на экране сябе можна і не пазнаць: я напачатку не пазнала актрысу Любоў Цімохаву, чый раптоўны ад'езд збянтэжыў у свой час Акадэмічны тэатр імя Якуба Коласа. Кабета выйшла замуж... у Вільню. І ўжо з віленскага экрана прыгажуня Цімохава сарамліва, толькі для Т.Дубавец, тлумачыла, што, акрамя праўды сцэны, ёсць яшчэ і праўда жыцця, якія ніколі не супадаюць. А жонка — гэта не роля, гэта — невымоўнае... Тлумачыць ды перабірае фотаздымкі, фотаспробы, сведчанні яе сцэнічнай праўды, рацыі, жыцця. Большай банальнасці, як гэтае перабіранне, уявіць немагчыма, але аператар Гурскас «выпадкова» знаходзіць здымкі на грыміравальным століку Любы, якую заспелі між грымам ды выхадам на сцэну, — знаходзіць і нязмушана ратуе сітуацыю. Настолькі, што вобраз актрысы, занятай у адной-адзінай ролі (Маці Аленіхі ў «Бэмбі» Рускага тэатра Летувы), не патрабуе падмацавання-дасканалення. Тэатральная кар'ера, ахвяры альбо няздатнасць да іх, усё разам не вартае Любы Цімохавай ды яе чалавечага шчасця. Пасля перадачы я даведалася: цяпер у яе няма і гэтай адзінай ролі, бо ў Рускім тэатры Летувы поўна сваіх... кандыдатак у мацяркі аленіхі. А Люба цяпер займаецца дзіцячым — самадзейным тэатрам.

Вобраз паэта Алега Мінкіна спраўдзіла аператарка Наталля Калеснік: чалавека неспыннага, чалавека ў руху, гэткі парафраз перпетуум мобіле. Босыя паэтавы ногі звыкла мераюць заснежаныя каляіны (Наталлю тым часам трымалі за ногі ў машыне); ледзяная вада ахалоньвае запал бегуна і, па ўсім відаць, настройвае групу здымшчыкаў на паэтычны лад. Сонца адбіваецца ў ледзяшах, змерзлыя тэлевізійнікі скачуць — грэюцца, а за кадрам чуваць вершы Мінкіна. Праз колькі экранных хвіляў змерзлыя людзі сыдуцца за гарбатай і паэт раскажа, як трэба даглядаць сваё натхненне...

У маленькіх сюжэтах са шматлікіх Тацяніных перадач не надараецца дзяжурных абагульненняў. Ну што б вы з нагоды жаночага свята папыталі ў дзвюх паненак з ткацкай фабрыкі на фоне варштатаў? Т.Дубавец папрасіла прачытаць якісьці вершык, з тых, што трывала ўбівае ў галаў школьная праграма. Расчырванелыя дзяўчаткі ў чырвоных хустачках, натуральна адасобіўшыся ад камеры, высокімі галасамі пачалі «Ехаў дзедка на кірмаш, з ім на возе баба...». І з гэтай немудрагелістасці вынікнула проста-такі візітоўка Тацяніных праграм — натуральнасць чалавечых паводзін перад камерай. Проста? А ўключыце ваш тэлевізар!..

Дырэктар ткацкай фабрыкі падсумаваў расповяд пра беларусачак на сваёй вытворчасці: «Фабрыка паблізу ад вакзала... а мо таму, што Беларусь непадалёк, у нас працуе шмат беларусак. Апроч працавітасці яны вызначаюцца любоўю да парадку і дысцыплінаванасцю. Праўда, шмат хто доўга не затрымліваецца. Заробіць на пасаг і...». І непарадная выява на экране — цэх, варштат — знакі долі дзявочай у ткацкім тлуме.

Зрэшты, гэтая іранічная лірыка, як і давер суразмоўнікаў, — гэтаксама на візітоўцы праграм Т.Дубавец. Вось яшчэ доля дзявочая: Ларыса Мятлеўская, актрыса з вышэйшай мастацкай адукацыяй, выйшла замуж на хутар Кайраны. Вышыла там сабе нацыянальны строй дый спявае песні... на беразе сажалкі ў былым парку Тышкевічаў (хутар з паркам якраз мяжуе). Сонца залоціць наваколле, прыгажосць занядбанага парку адлюстроўваецца ў вачах спявачкі, і раптам з неба пачынае сыпацца буйны, проста бутафорскі снег! «Дождж пры сонцы называюць сляпым, а як назваць снег?» — не губляючы спеўнай засяроджанасці, разважаюць у кадры рэдактарка-вядучая ды спявачка... Ілюструючы, так бы мовіць, трэцюю пазначку-візітоўку перадач, — незвычайную колькасць прыгажунь. Адкуль? «А трэба ўмець!» — смяецца рэжысёр Кавалюкас. Пэўна, смяецца з мяне: Беларускае тэлебачанне з ягонымі магчымасцямі — не знаходзіць! «Летувіскае — таксама, —перапыняе Стасіс, — знаходзіць Таня. Стварае».

Адна з апошніх перадач — пра стварэнне беларускай школы ў Вільні. Знята й паказана месца, куды трэба звяртацца бацькам, расказана й паказана, якія і куды трэба несці паперы. Дзея суправаджаецца ўзорам школы N51 ў Новай Вільні, — перад камерай хвалюецца Ніна Пашкевіч, выкладчыца пачатковых класаў і факультатыву. Ператлумачвае Тацяна Каротчанкава з Лабараторыі доследаў патрэб і праблем нацыянальных меншасцяў. Удакладняе Данута Калеснікава, якая апекуецца школамі гэтых самых меншасцяў у Міністэрстве асветы і культуры Летувы. Ніхто нікога не агітуе, не сарамаціць, не заахвочвае...

...Спадарыня Т.Дубавец, адклаўшы пільныя справы, прапановы ды камандзіроўкі, мусіла ў хуткім часе прайсці ўсімі пакручастымі сходамі, якія ўтварылі вобраз яе перадачы пра беларускую школу. Мусіла, бо хто выхадзіць для нашых дзяцей школу, як не мы самі? Праўда, напрыканцы перадачы да дзіцяці, што ўпарта караскалася па прыступках і раптам згубіла раўнавагу, працягнулася моцная рука дарослага. Дабрадзей застаўся за кадрам...

**Жана ЛАШКЕВІЧ.**

Вільня — Мінск.

КУЛЬТУРА

ШТОТЫДНЁВАЯ ГРАМАДСКА — АСВЕТНІЦКАЯ ГАЗЕТА
выдаецца з кастрычніка 1991года

Заснавальнік — Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь

Галоўны рэдактар — Вольга ІПАТАВА

Нам.галоўнага рэдактара — Людміла КРУШЫНСКАЯ

Рэдкалегія:

А. ВАНЦКІ, В. ГЕДРОЙЦ, У. ГІЛЕП, Н. ЗАГОРСКАЯ, С. ЗАКОННІКАЎ, А. КУДРАВЕЦ, М. КУПАВА, В. РАКІЦКІ, В. СКВАРЦОЎ, К. ТАРАСАЎ, А. ТРУСАЎ, В. ТУРАЎ, В. ШАРАНГОВІЧ.

Адказны сакратар — Андрэй ВАШКЕВІЧ
Мастацкі рэдактар — Наталля ОВАД, Барыс ШУЛЬМАН
Карэктар — Мая КЛІМКОВІЧ
Набор і вёрстка кампутарнага цэнтра газеты «Культура»

Адрас рэдакцыі: 220029, МІНСК (МЕНСК), вул. ЧЫЧЭРЫНА, 1

Тэлефон: 76-94-66

Рукапісы аб'ёмам больш за адзін аўтарскі аркуш не прымаюцца.

Аўтарскія рукапісы не рэцэнзуюцца і не вяртаюцца.

Меркаванні аўтара могуць не адпавядаць пункту гледжання рэдакцыі.

Аўтары нясуць адказнасць за дакладнасць матэрыялаў.

©

Фармат А3.

Індэкс 63875
Агульны наклад 13000
Замова 50
Друкарня выдавецтва «Беларускі Дом Друку».

М. 1, 2, 3, 4, 5, 6, 7, 8, 9, 10, 11, 12.

Д. 1, 2, 3, 4, 5, 6, 7, 8, 9, 10, 11, 12.

